

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 1 снежня 1989 г. № 48 (3510) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Абмеркаваны праект Закона аб мовах

На сумесным пасяджэнні Камісіі заканадаўчых меркаванняў, Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах, Камісіі па народнай адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета рэспублікі разгледжаны праект Закона аб мовах у Беларускай ССР.

Прадставіла праект старшыня створанай на адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР Камісіі па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі, намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Н. М. Мазай.

Працуючы над праектам, падкрэсліла Н. М. Мазай, мы ўсведамлялі, што жывём у многанацыянальнай краіне і многанацыянальнай рэспубліцы, што прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей гэтак жа, як і беларусы, маюць права на свабоднае развіццё роднай мовы. А таму, вызначаючы статус дзяржаўнай для беларускай мовы, прадугледзелі, што на такім жа дзяржаўным узроўні павінны садзейнічаць развіццю моў усіх без выключэння нацыянальнасцей, якія прадстаўлены ў Беларусі. І неаслабныя нашы клопаты — аб дасканалым веданні рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін.

Такім чынам, праблемы, якія накопліваліся дзесяцігоддзямі і сталі пагражаць самому існаванню беларускай мовы, прапануецца пачаць вырашаць заканадаўча.

Закон мае на ўвазе рэгуляваць выкарыстанне моў у дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, але, зразумела, не рэгламентуе, на якой мове ажыццяўляць сувязі паміж сабой людзям у прыватным жыцці або звяртацца ў дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, установы. Недапушчальныя якія-небудзь прывілеі або абмежаванні правоў па моўнай прыкмеце. Неабходнасць захоўваць павагу да беларускай мовы, як і да любой іншай, адлюстравана ў артыкуле, які прадугледжвае адказнасць за публічнае іх зневажанне, прапаведзь варожасці на моўнай падставе.

У духу прававых норм многанацыянальных дзяржаў гучыць артыкул праекта аб абавязках кіраўнікоў і іншых работнікаў дзяржаўных установ, партыйных, грамадскіх органаў, прадпрыемстваў. Ні адзін з іх не можа займаць сваю пасаду, не валодаючы ў дастатковай меры беларускай і рускай мовамі.

Мова справаводства, узаемаадносін розных арганізацый і ўстаноў, прадпрыемстваў — беларуская. Руская — пры неабходнасці. На з'ездах, канферэнцыях, пленумах, пасяджэннях, нарадах і г. д. у рэспубліцы рабочай мовай з'яўляецца беларуская. Іншую мову могуць выбраць самі ўдзельнікі міжрэспубліканскіх, усесаюзных або міжнародных форумаў.

Падобным чынам праект закона разглядае і вядзенне судаводства, натарыяльнай і арбітражнай спраў, пракурорскага нагляду, юрыдычнай дапамогі.

У спецыяльны раздзел аўтары праекта выдзелілі ўсё, што датычыць мовы адукацыі, навукі і культуры. У сферы культуры беларускай мове забяспечваецца перавага пры захаванні і развіцці культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, якія жывуць у Беларусі.

Дэпутаты — члены камісій, якія абмяркоўвалі законапраект, былі аднадушныя ў думцы: аўтары глыбока і ўсебакова падрыхтавалі асноватворны для прававога рэгулявання выкарыстання моў розных нацыянальнасцей дакумент.

На сумесным пасяджэнні камісій ішла таксама размова і аб Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР, разлічанай на перыяд да 2000 года. За яе распрацоўку адказвае Савет Міністраў БССР, а з яе ажыццяўленнем звязана сапраўдная рэалізацыя Закона аб мовах.

Удзельнікі пасяджэння аднагалосна вырашылі ўхваліць законапраект, даручыць камісіі дапрацаваць яго з улікам выказаных заўваг і прадставіць у Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі, а пасля разгляду яго там вынесці праект на ўсенароднае абмеркаванне.

У рабоце камісій прынялі ўдзел намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. Мікуліч, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. М. Сыраегіна.

(Па матэрыялах БЕЛТА).

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ ВЕЧА

**Многія пакаленні нашых людзей дзялілі час на два адрэзкі — «да вайны» і «пасля вайны». 26 красавіка 1986 года стала трагічным рубяжом новага падзелу: «да Чарнобыля» і «пасля Чарнобыля».**

**Вось ужо чацвёрты год усе мы жывём у гэтым новым вымярэнні часу, а прызвычаіцца, зміры́цца з тым, што здарылася, не можам. Не звыкнемся, не змірымся — ніколі. Бо гэтая бяда — нязбытная. Бо гэты боль — незагойны.**

**Дзеля змяншэння вынікаў трагедыі, дзеля выратавання сучаснікаў і нашчадкаў робіцца многае. Ды ўсё ж, пэўна, малавата. І несвоечасова. І не так, як трэба было б.**

**Мо таму і праводзяцца такія акцыі, як «Мітынг маўчання» на плошчы Леніна і «Чарнобыльскі шлях» на Ленінскім праспекце Мінска да той жа плошчы Леніна.**

**Гэтыя здымкі зроблены ў дні (25 і 26 лістапада), калі ў Мінску па ініцыятыве БНФ «Адраджэнне» праходзіла асамблея народаў «Чарнобыльскі шлях». У ёй бралі ўдзел дэлегацыі народных рухаў Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Малдавіі, прадстаўнікі нефармальных арганізацый некаторых раёнаў РСФСР, што пацярпелі ад чарнобыльскай бяды, навукоўцы, супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў БССР, народныя дэпутаты СССР А. Адамовіч, В. Быкаў, С. Шушкевіч, В. Карніенка, жыхары забруджаных раёнаў.**

Фота Я. КОКТЫША







### *Надзённая цытата*

ІДЭЯ сацыялізму, у нашым сённяшнім разуменні, — гэта, перш за ўсё, ідэя свабоды.

□

Перабудова паказала, што толькі рэальнае ўключэнне чалавека ва ўсе дзяржаўныя і грамадскія справы ў якасці адказнага суб'екта дзейнасці дазволіць пераадолець адчужэнне чалавека, разрыў паміж агульнымі і асабістымі інтарэсамі, павысіць актыўнасць асобы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

□

Перабудова літаральна выплеснула на паверхню грамадскага жыцця масу праблем і супярэчнасцей у сферы міжнацыянальных адносін. Гэтыя праблемы ўзніклі не сёння. Яны нарадзіліся тады, калі нацыянальныя асновы падаўляліся, афіцыйна аб'яўляючы «нацыянальнае пытанне» вырашаным. Гэтыя праблемы дасягнулі найбольшага напружання тады, калі лічылася магчымым караць за невядомую віну цэлыя народы. Ва ўмовах цяперашняй дэмакратыі і галоснасці гэтыя канфлікты толькі выйшлі на паверхню, на што трэба глядзець цвяроза, бо, не выявіўшы рэальныя праблемы, нельга і вырашыць іх. Важна толькі дабіцца таго, каб нацыянальныя рухі ў абарону свайго суверэнітэту, эканомікі і культуры не абарочваліся ва ўрон іншым нацыям, ва ўрон усяму нашаму Саюзу, ва ўрон перабудове.

□

Сацыялізм не будзе мець ніякай інтэлектуальнай і маральнай прывабнасці ў вачах чалавецтва, калі будзе знаходзіцца недзе ў хвасце перадавых атрадаў сусветнай навукі і культуры. Сацыялізм наогул не будзе мець ніякіх перспектыў, калі мы не створым умоў для рэалізацыі творчых, духоўных сіл кожнай асобы і ўсяго народа, для праяўлення талентаў, здольнасцей, прадпрымальнасці ва ўсіх галінах дзейнасці.

**З артыкула М. ГАРБАЧОВА «Сацыялістычная ідэя і рэвалюцыйная перабудова».**

**[«Праўда», 26 лістапада 1989 г.].**

## Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

**Аб ролі і месцы пісьменніка ў перабудове, стварэнні ўмоў для творчай плённай працы ішла размова на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся 28 лістапада.**

**Адкрыў пасяджэнне старшыня праўлення СП БССР Максім Танк.**

**Па першым пункце парадку дня «Аб Статуце Саюза пісьменнікаў БССР» выступілі сакратар праўлення СП БССР А. Жук і старшыня прававой камісіі СП В. Хомчанка.**

**З трыбуны гучала многа цікавых ідэй. Пісьменнікі выказваліся за ўвядзенне больш жорсткіх патрабаванняў да ўступаючых у саюз. Прапаноўвалі скараціць кіраўніцкі апарат і, пакінуўшы ў ім толькі некалькі аплачваемых пасад, усю астатнюю работу весці на грамадскіх асновах. Падтрымку залы выклікалі меркаванні аб неабходнасці даць пісьменнікам права сэмім адпраўляць за рубеж рукапісы і заключаць пагадненні на выданне сваіх твораў. Многія прамоўцы гаварылі аб тым, што незалежнасці саюза немагчыма дабіцца без сур'ёзнай матэрыяльнай базы, асновай якой можа стаць пісьменніцкае выдавецтва. У новы статут прапанавана запісаць палажэнні аб падтрымцы нефармальных аб'яднанняў маладых літаратараў.**

**Створана рабочая група па падрыхтоўцы праекта Статута Саюза пісьменнікаў БССР.**

**Па другім пытанні «Аб з'ездзе пісьменнікаў Беларусі» выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч.**

**Прынята рашэнне правесці чарговы з'езд рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі ў красавіку—маі 1990 года.**

**На пленуме разгледжаны арганізацыйныя пытанні.**

**У сувязі з пераходам на працу ў рэдакцыю часопіса «Полымя» А. Жук вызвалены ад пасады сакратара праўлення СП БССР.**

**Задаволена просьба Н. Гілевіча аб вызваленні яго ад пасады першага сакратара праўлення СП БССР. Яму выказана падзяка за шматгадовую актыўную работу ў апараце СП БССР.**

**Першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі абраны В. Зуёнак.**

## Рада ТБМ вырашыла...

Нядаўна ў Доме літаратара прайшло чарговае пасяджэнне рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Адкрыў і вёў яго старшыня рады **Н. Гілевіч.** З кароткімі паведамленнямі аб тым, як адбываецца ўтварэнне арганізацыі ў рэспубліцы, выступілі кіраўнікі і сябры гарадскіх, абласных і раённых рад. У прыватнасці, ужо створаны рады ТБМ у такіх гарадах, як Слуцк, Мазыр, Калінкавічы, Вілейка, Пухавічы, Жодзіна, Ашмяны, Навагрудак, Лагойск і інш. Як паведамлялася ўжо ў «ЛіМе», адбыўся і ўстаноўчы з'езд сталічнай арганізацыі ТБМ. Старшыня гарадской рады **А. Грыцкевіч** праінфармаваў прысутных аб тым, што ва ўсіх раёнах Мінска ўжо існуюць раённыя рады: заснавана рада Таварыства на чале з А. Лойкам і ў БДУ імя У. І. Леніна; што тычыцца іншых мінскіх ВНУ, то суполкі ТБМ існуюць яшчэ не ў кожнай.

Сябра Віцебскай рады ТБМ **І. Навумчык** паведаміў, што ў горадзе створаны раённыя і гарадская рады. Прайшлі ўстаноўчыя сходы ў многіх раёнах вобласці, на чарзе такія сходы ў Віцебскім і Полацкім раёнах, а таксама ў Оршы. Першасныя суполкі створаны ў большасці ВНУ горада, а таксама на прадпрыемствах. Такому досыць актыўнаму станаўленню ТБМ на Віцебшчыне ў пэўнай меры спрыяе той факт, што актывісты і ініцыятары стварэння Таварыства знайшлі агульную мову як з нефармальнымі суполкамі тыпу «Узгор'е», віцебскай філіяй БНФ, так і з абласным камітэтам партыі. Пры абкоме партыі створана спецыяльная ідэалагічная група, якая займаецца пытаннямі мовы. Дарэчы, зварот і статут ТБМ перадрукавала не толькі абласная газета, але і большасць гарадскіх і раённых газет Віцебшчыны. Добры плён такога ўзаемаразумення і супрацоўніцтва адзначыў у сваім выступленні і старшыня Віцебскай гарадской рады **У. Папковіч.**

Сябра Полацкай рады ТБМ **М. Пятрэнка** праінфармаваў аб тым, што ў горадзе створана 17 першасных суполак з агульнай колькасцю 234 чалавекі, а ўсяго ў раёне існуе 675 сяброў Таварыства.

У красавіку было заснавана ТБМ і ў Магілёве, аднак, як паведаміў сябра рэспубліканскай рады **Я. Клімуць,** дзейнасць сваю Таварыства яшчэ тут не разгарнула. Непрыхільна да беларусізацыі ставіцца начальнік абласнога ўпраўлення народнай адукацыі. І, напэўна, як вынік таго, у Магілёве дагэтуль няма ніводнага класа з беларускай мовай навучання.

У бліжэйшы час, паводле інфармацыі сяброў рэспубліканскай рады ТБМ, павінны адбыцца ўстаноўчыя сходы ў Гомелі **(М. Хадоркін)**, Гродне **(А. Саўчык)**, Баранавіцкім раёне **(Л. Плыгаўка).**

Было разгледжана пытанне аб выданні папулярных кніг ТБМ імя Ф. Скарыны на базе аднаго з выдавецтваў, з тым, каб прыбытак ішоў на рахунак Таварыства. Мяркуецца заснаваць серыю «Вернутыя з небыцця», і ў гэтай серыі выдаць «Гісторыю крыўскай кнігі» і «Слоўнік» В.Ластоўскага, творы У. Ігнатоўскага, М. Шчакаціхіна, К. Сваяка, перавыдаць беларускую перыёдыку XVII—пачатку XX ст. і інш. Апрача таго, вырашана выдаваць бюлетэнь таварыства пад назваю «Наша слова». Бюлетэнь будзе мець аб'ём 16 старонак і выходзіць адзін раз у месяц (з часам мяркуецца пераўтварыць яго ў штотыднёвік). Выданне будзе рэдагавацца першапачаткова на грамадскіх пачатках і ажыццяўляцца ў сістэме выдавецтва «Мастацкая літаратура».

На студзень 1990 года прызначана рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя. Для правядзення яе створаны аргкамітэт, куды ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў і сацыяльных слаёў рэспублікі. Аб дзейнасці аргкамітэта будзе паведамляцца ў рэспубліканскім друку. Асноўныя тэмы канферэнцыі: абмеркаванне законапраекта аб мовах у БССР, наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай у рэспубліцы, а таксама абмеркаванне рэспубліканскай і рэгіянальных праграм «Родная мова», якія заклікаaны стварыць умовы для паўсюднага і няўхільнага пашырэння сфер яе ўжывання. Рэкамендавана рэгіянальным радам ТБМ сумесна з іншымі зацікаўленымі арганізацыямі правесці на месцах гарадскія, раённыя і абласныя канферэнцыі, абмеркаваўшы на іх згаданыя пытанні.

Рада зацвердзіла штат ТБМ для выканання тэхнічнай і арганізацыйнай працы, які будзе складацца з 3-х чалавек. Была таксама зацверджана сімволіка ТБМ імя Ф. Скарыны, якая ўяўляе сабой эмблему з выявай скарынаўскага знака сонца і паўмесяца, а таксама гістарычнага сімвала «Пагоня». Рэгіянальным радам ТБМ было рэкамендавана ў бліжэйшы час адкрываць рахункі ў гарадскіх (раённых) аддзяленнях Жылсацбанку БССР і займацца фінансава-гаспадарчай дзейнасцю (выпускам брашур, плакатаў, дапаможнікаў для слухачоў курсаў беларускай мовы і інш.), дамагацца выпуску пастаянных старонак пад рэдакцыяй Таварыства ў раённых (абласных) газетах.

Рэспубліканская рада ТБМ вырашыла звярнуцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР з прапановай значна падоўжыць тэрмін усенароднага абмеркавання законапраекта «Аб статусе моў у БССР» і праводзіць яго на працягу не менш як шасці месяцаў. Быў таксама прыняты зварот да Вярхоўнага Савета СССР, Вярхоўнага Савета БССР і да народных дэпутатаў — прадстаўнікоў Беларусі аб непрыняцці ТБМ імя Ф. Скарыны прапановы надаць рускай мове статус агульнадзяржаўнай мовы ў СССР.

Актыўны ўдзел у рабоце пасяджэння, апрача згаданых ужо сяброў, прынялі **Я. Цумараў, П. Садоўскі, В. Вячорка, А. Мальдзіс, Я. Брыль, Г. Цыхун, А. Трусаў, М. Купава, І. Чарняўскі, Л. Лыч, І. Булыка, В. Кузьміч, Г. Прыма, В. Маслюк, В. Міхасёнак, З. Санько, Б. Сачанка, У. Содаль, С. Нічыпаровіч.**

**НАШ КАР.**

## САЦЫЯЛОГІЯ І ТЭАТР

**Упершыню ў рэспубліцы адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Сацыялагічныя праблемы тэатра», якую падрыхтаваў Саюз тэатральных дзеячаў БССР. Яе мэта — пазнаёміць тэатральную грамадскасць з практыкай сацыялагічных даследаванняў на Беларусі (дакладчык — кандыдат філасофскіх навук В. Іўчанка) і засярodзіць увагу на неабходнасці сацыялагічных даследаванняў тэатра. На думку прамоўцаў Р. Янкоўскага, В. Маслюка, В. Мазынскага, А. Гузія, С. Царайкоўскага, С. Мухіна, І. Андрэева і іншых, комплекс даследаванняў пакуль ажыццявіць няможна. Тэатр існуе ў грамадстве не ізалявана, і пакуль не будзе ажыццёўлена шырокая ўрадавая праграма развіцця культуры, а ў яе рамках сацыялогіі культуры, у тым ліку тэатра, наўрад ці што зменіцца ў лепшы бок. Няма навуковых падраздзяленняў для далейшых сацыялагічных даследаванняў у галіне мастацтва, тэатра ў прыватнасці. У гэтым напрамку працуюць толькі энтузіясты на грамадскіх пачатках пры СТД БССР, ды і тых — адзінкі. Аднак імі ў рэспубліцы праводзіліся лакальныя даследаванні наведнікаў драматычных і музычных тэатраў, вывучалася арыентацыя моладзі ў галіне тэатральнага мастацтва, глядацкая аўдыторыя гастрольных і прэм'ерных спектакляў.**

**Жыццё даводзіць, што патрэбны шырокія даследаванні ўсяго рэгіёна, вывучэнне патэнцыяльнай аўдыторыі тэатраў, каб можна было распрацаваць стратэгію фарміравання глядацкай аўдыторыі і культуры — так званыя комплексныя даследаванні па розных напрамках. Ёсць неабходнасць і ў больш вузкай праблематыцы. Варта, каб у тэатрах былі свае сацыёлагі і псіхолагі, якія б змаглі даваць практычныя рэкамендацыі тэатральным дзеячам.**

**В. ШЫМАНОВІЧ,**
**кансультант СТД БССР.**

*Інтэрв'ю ў нумар*

**У Парыжы завяршыла работу XXV сесія Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, у рабоце якой прымала ўдзел дэлегацыя Беларускай ССР на чале з міністрам культуры рэспублікі Яўгенам ВАЙТОВІЧАМ. З ім сустрэўся наш карэспандэнт.**

## У АТМАСФЕРЫ ДАВЕРУ І ДОБРАЗЫЧЛІВАСЦІ

**— Яўген Канстанцінавіч, якое ваша агульнае ўражанне ад работы такога аўтарытэтнага форуму?**

— Няма сумнення, што ЮНЕСКА сёння—вельмі аўтарытэтная сусветная арганізацыя, у полі зроку якой знаходзіцца самы шырокі спектр пытанняў адукацыі, навукі і культуры. Супрацоўнічаюць пад эгідай ЮНЕСКА лепшыя інтэлектуальныя сілы свету, якія імкнуцца, як я пераканаўся, да шчырага ўзаемаразумення. На Генеральнай канферэнцыі панавала атмасфера даверу і добразычлівасці. Акрамя пленарных пасяджэнняў, яшчэ працавала 9 камісій, вяліся дыскусіі штодзённа, але часу ўсё роўна не хапала, таму ў дадатковы час працавалі да гадзіны ночы. І, заўважу, існавала цвёрдае правіла: слова прадстаўлялі ўсім жадаючым.

**— Якія пытанні былі ўключаны ў парадак дня канферэнцыі?**

— Мы прынялі шасцігадовы план работы на 1990—1995 гады, праграму і бюджэт на двухгадовы перыяд. Генеральны дырэктар Ф. Маёр звярнуўся да краін, што ўваходзяць у ЮНЕСКА, з прапановай павялічыць бюджэт на 2,5 працэнта. Ён заклікаў усіх тых, хто падтрымлівае сусветнае супольніцтва, добраахвотна павялічыць свае ўзносы.

**— Гэта, так сказаць, агульныя пытанні, але ж наша дэлегацыя прадстаўляла ў Парыжы 10-мільённы народ Беларусі—са сваімі вострымі праблемамі...**

— Мне, як міністру культуры, давялося выступіць на пле-

*Па старонках друку*

## ШТО ЗАЎТРА?

### Народны дэпутат пра перабудову на Беларусі

**У нумары газеты «Московские новости» ад 26 лістапада змешчаны артыкул народнага дэпутата СССР Аляксандра Жураўлёва «Не страціць свой шанц. Беларусь: кірункі развіцця». Як вынікае ўжо з назвы, выступленне прысвечана надзённым праблемам грамадска-палітычнай сітуацыі ў нашай рэспубліцы. Прыемна, што многія выказаныя А. Жураўлёвым са старонак аўтарытэтнага сталічнага выдання думкі — асабліва тыя, што тычацца ўзаемаадносін «улады» і «народа» — перагукаюцца з развагамі Васіля Быкава (гл. артыкул «Назад ці наперад?», надрукаваны ў мінулым нумары «ЛіМа»).**

**Спынімся на публікацыі «МН» больш падрабязна. Частку свайго артыкула дэпутат Жураўлёў прысвяціў аналізу прычын «беларускага дабрабыту». Сярод іншага вучоны-эканаміст адзначае, што некаторыя фактары «далі сфарміравацца асаблівай сістэме кіравання.**

*На тэму дня*

## Хачу быць містэрам Ікс!

Працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, сапраўды неадназначныя, складаныя і нялёгкія. Без выдаткаў і хібаў абысціся цяжка, бадай што немагчыма. Здзяйсняецца рэвалюцыя ў рэвалюцыі. А рэвалюцыя—рэч сур'ёзная. Мы гэта ведаем лепш за іншых: апякаліся балюча, жорстка, трагічна. Дык ці можна гэтак бяздумна зноў і зноў? Хіба няпраўду кажуць, што максімальны дынамізм нашага часу і тых працэсаў, на якія ён сёння багаты, якраз і заклікае, абавязвае да максімальнай узважанасці, прадуманасці і стрыманасці?

Гэтыя ўзважанасць, прадуманасць і стрыманасць павінны прысутнічаць не толькі ў кардынальных рэформах, якімі мяркуем мы зьначыць наша жыццё. Яны павінны суправаджаць кожны наш крок па шляху эканамічнага і грамадскага, духоўнага абнаўлення. Бяздумнае малпаванне і перайманне наўрад ці прынясе плён і ў сферы эканомікі, а ў сферы духоўнай яно наогул шкоднае, разбуральнае.

А між тым...

А між тым у наша жыццё ўсё шырэй уваходзяць непажаданыя, неўласцівыя нашаму ладу жыцця, нашым народным, нацыянальным звычаям, традыцыям і разуменням з'явы і рэчы. Эйфарыя плюралізму слоў і дзеянняў няйначай кружыць сяму-таму з нас галовы...

Пракацілася па краіне хваля конкурсаў прыгажосці. Як эпідэмія, як пошасць нейкая—«от Москвы до самых до окраин». Саюзныя, рэспубліканскія, абласныя, гарадскія. Сям-там, кажуць, прайшлі і раённыя выбары прыгажунь. Дажывём, пэўна, і да сельсавецкіх, а то і да калгасных — меры мы не ведаем. І абавязкова пераможца будзе названа замежным слоўкам «міс». «Міс нашага

нарным пасяджэнні, дзе я гаварыў аб мяркуемым святкаванні 500-годдзя з дня нараджэння нашага геніяльнага вучонага і мысліцеля эпохі Адраджэння Ф. Скарыны. У сувязі з прынятай па гэтаму пытанню спецыяльнай рэзалюцыяй дасягнута дамоўленасць аб удзеле ЮНЕСКА ва ўрачыстасцях. Вырашана, што пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ЮНЕСКА ў Парыжы дзесьці ў маі—чэрвені наступнага года,— у час пасяджэння выканаўчага савета ЮНЕСКА, — правядзе цырымонію, прысвечаную вялікай падзеі. Мяркуем паказаць дакументальны фільм пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны, падараваць ЮНЕСКА карціну — жывапісны партрэт нашага геніяльнага асветніка. На святкаванне ў Беларусь мы запросім прадстаўнікоў тых народаў, на зямлі якіх у сілу розных абставін жыў і тварыў мысліцель, а таксама кіраўніцтва ЮНЕСКА.

Адзначу, што дэлегацыі розных краін нярэдка прапаноўваюць успомніць у календары памятных дат ЮНЕСКА тую або іншую асобу, але прымаюцца далёка не ўсе прапановы. Наша ж рэзалюцыя амаль не выклікала пярэчанняў і атрымала шырокую падтрымку.

**— У час вашай сустрэчы з генеральным дырэктарам ЮНЕСКА Ф. Маёрам былі таксама абмеркаваны праблемы міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне вывучэння вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і іх ліквідацыі?**

— Запрашэнне генеральным дырэктарам на прыём у сваю штаб-кватэру — факт выключны. Асабіста я расцэньваю такое, як павагу да нашага народа, як разуменне складанасці экалагічных праблем, з якімі мы сутыкнуліся. З панам Федэрыка Маёрам мы абмяркоўвалі і пытанні ўдзелу ЮНЕСКА ў святкаванні юбілею Скарыны, і экалагічную абстаноўку ў рэспубліцы пасля чарнобыльскай аварыі. Па экалагічных пытаннях у рэспубліцы ад нашай дэлегацыі выступіў на канферэнцыі член-карэспандэнт АН БССР У. Саўчанка. Беларуская дэлегацыя лічыць, сказаў ён, што ЮНЕСКА і яе аддзел экалагічных навук могуць выступіць каталізатарам супрацоўніцтва па вывучэнню вынікаў аварый на атамных электрастанцыях. Мы прапанавалі склікаць у будучым годзе спецыялізаваны міжнародны сімпозіум, які дазволіць прааналізаваць уздзеянне доз радыяцыі ў экасістэмах і папуляцыях чалавека і намеціць шляхі далейшых даследаванняў.

Беларускія вучоныя гатовыя аказаць усялякую дапамогу спецыялістам з іншых краін па арганізацыі сумесных лабараторый і навуковых экспедыцый. З трыбуны канферэнцыі было сказана пра тое, што МАГАТЭ мяркуе аказаць дапамогу нам у разгортванні сеткі станцый назірання за дынамікай распаду радыенуклідаў, і да такой работы можна прыцягнуць іншыя спецыялізаваныя арганізацыі ААН. Мы звярнулі ўвагу сусветнага супольніцтва на тое, што любая дапамога рэспубліцы абсталяваннем, камп'ютэрамі, хімрэактывамі будзе з вялікай удзячнасцю прынята нашым насельніцтвам.

**— Яўген Канстанцінавіч, вы задаволены той работай, якую правяла наша дэлегацыя ў час генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА?**

— Здаецца, што са сваёй асноўнай задачай мы справіліся. Вырашалася, напрыклад, пытанне аб павелічэнні колькасці пастаянных супрацоўнікаў у сакратарыяце ЮНЕСКА. Мы прапанавалі ўвесці ў выканком А. Р. Лабанка, дырэктара Інстытута мікрабіялогіі АН БССР, і нас падтрымалі. Пры абмеркаванні плана работы на наступны год мы прапанавалі ўключыць у яго правядзенне камп'ютэрызацыі за лік ЮНЕСКА Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. З намі таксама пагадзіліся, больш таго, там гатовы навучаць нашы бібліятэчныя кадры тонкасцям камп'ютэрызацыі. Усе мы ўстрывожаны станам, у якім знаходзіцца галоўная бібліятэка рэспублікі, і таму разумеем, што значыць для нас такая дапамога.

Неафіцыйнай часткай нашай праграмы было наведанне і ўскладанне кветак да магілы свайго земляка, жывапісца XIX стагоддзя Валенція Ваньковіча.

**Гутарыў В. ЛАПЦІК.**

---

Дакладней, гэта добра ўсім нам вядомая каманднa-адміністрацыйная сістэма кіравання, але нібы ва ўзорна-паказальным варыянце, дасягнуўшая мяжы сваіх магчымасцей. Яна пабудавана на жорсткай адміністрацыйнай дысцыпліне, на дакладным падпарадкаванні нізоў вярхам, на стараннасці рэспубліканскіх улад у дачыненні да саюзных».

Закранае А. Жураўлёў і нацыянальнае пытанне на Беларусі. «Становішча тут двухсэнсоўнае, — піша ён. — З аднаго боку, нацыянальнае пытанне для Беларусі зараз відавочна не стаіць на першым месцы. Палітычныя і экалагічныя праблемы куды больш вострыя... Але з іншага боку... становішча ў рэспубліцы дайшло ледзь не да страты народам нацыянальчай самасвядомасці...

Карацей, нацыянальная праблема стварае вельмі сур'ёзны грунт для канфлікту ў не такой ужо аддаленай будучыні. Калі, вядома, нацыянальны рух не ўтрымаецца ў рэчышчы палітычнай культуры. А дзеля гэтага зноў-такі патрэбны дыялог, у тым ліку паміж кіраўніцтвам рэспублікі і Народным фронтам».

А. Жураўлёў дзеліцца таксама думкамі аб маючым адбыцца пераходзе Беларусі на гаспадарчы разлік. Параўноўваючы беларускі гасразлік з прыбалтыйскім, народны дэпутат піша: «Беларускі, па сутнасці, абмежаваўся павелічэннем паступаючых у рэспубліканскі бюджэт падаткаў з прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. Між тым у цэнтры прыбалтыйскага варыянту — пытанне аб уласнасці, аб тым, хто будзе распараджацца працай размешчаных у рэспубліцы прадпрыемстваў, вырашаць, што тут выгадна рэспубліцы. Калі ж колькасць прадпрыемстваў, якія належаць ёй самой, мізэрная—да 10 працэнтаў, як на Беларусі, то пры любых падатках становішча абарочваецца тым, што рэспубліка літаральна самараспрадаецца, прадае свае прыродныя, працоўныя рэсурсы».

Завяршаецца артыкул А. Жураўлёва ў «Московских новостях» вельмі слушнай, на наш погляд, высновай:

«Беларусі пашанцавала. Ёй дадзены гістарычны шанц. Перабудова пачалася, калі Беларусь яшчэ не крочыла ў той перыяд эканамічнага спаду, які рэзка ўскладніў становішча ў іншых рэспубліках. Але ён непазбежна чакае і яе, калі прамарудзіць з адмаўленнем ад каманднa - адміністрацыйнай сістэмы, якая вычарпала сябе. Лепш пачынаць перабудову з больш спрыяльнага становішча. Пакуль яшчэ гэта магчыма».

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

---

горада...», «Міс нашай вобласці...», «Міс нашага калгаса...». А што? Ёсць жа «Міс Еўропы», «Міс Амерыкі», «Міс свету». Дык хіба нам заказана? Мы назавём гэтай самай «місай» нават замужнюю жанчыну, маці...

Далей—болей. Хто мог дапусціць, што ўслед за дзяўчатамі дакоцяцца да конкурсаў прыгажосці і прадстаўнікі дужага полу? А між тым у Мінску ён прайшоў ужо. Наладзілі яго, калі верыць друку, гарадскі клуб творчай моладзі і Беларускае тэлебачанне, а фінансавалі «гарадскі цэнтр НТТМ «Матэна», аб'яднанні «Камсамолка», «Жылкамунтэхніка» і яшчэ некалькі фірм». Пераможца ўзнагароджаны турысцкай пуцёўкай у Югаславію і каштоўнымі падарункамі.

І пра ўсё гэта паведамляецца не з сумам, не з горкай іроніяй ці шкадаваннем, а з радасцю, проста са згаданай ужо мною нейкай незразумелай эйфарыяй. Маўляў, і мы дажылі, і мы дапнуліся, і мы не горшыя за людзей! І не засмучайцеся, калі хто не змог прыняць у ім удзел: гэта быў толькі першы конкурс, чакайце наступных — і вам усміхнецца шчасце!

Чытаеш такое і міжволі думаеш вось аб чым. Ну, скажам, тэлебачанню патрэбна было паказаць ці падрыхтаваць чарговае экраннае відовішча (даруйце маю цямноту, трэба ж казаць сёння «культурна»—шоу). Дык мо варта было б прыдумаць нешта сваё, адметнае, арыгінальнае, а не займацца малпаваннем? А клуб творчай моладзі? Яму што, няма чаго рабіць? Калі так, дык дзеля чаго ён створаны? І пры чым тут творчасць? Урэшце — фундатары, ці, зноў жа, выбачайце, спонсары. Ім што, няма на што траціць сродкі? Цяжка паверыць. У нас жа столькі дзірак!

А «цікавае відовішчнае мерапрыемства» па выяўленні «Містэра Ікса-89» (!) абышлося, трэба думаць, не ў малую капейчыну. Прайшло яно з размахам. На другі тур было дапушчана 35 прэтэндэнтаў. Папярэдне іх сабралі ў клубе імя Дзяржынскага на гутарку. У часе субяседавання арганізатары цікавіліся поглядам канкурсантаў на жыццё, распытвалі іх пра захапленні, высвятлялі веданне літаратуры, мастацтва, спорту. На другі дзень, пакінуўшы 14 чалавек, «журыйная камісія» адбірала ўдзельнікаў «па харэаграфічных даных—уменню прыгожа рухацца, хадзіць, танцаваць». Засталося пасля гэтага сем фіналістаў. Пяць дзён арганізатары рыхтавалі іх да фіналу, вызваліўшы на гэты час ад вучобы ці работы.

Тут ужо нельга не парадавацца за канкурсантаў. Адначасова ж і зажурыцца. Чаму ўсяго толькі на пяць дзён? Схібілі таварышы арганізатары. Вызваляць дык вызваляць. Хоць бы на месяц!

Ну ды не будзем бедаваць, конкурс жа праводзіўся ўпершыню, і наступным разам можна будзе выправіць гэтую прамашку.

Самым цікавым у фінале, паводле прызнання пераможцы, быў конкурс паліглотаў. Конкурс на веданне англійскай, французскай, чэшскай і польскай моў. А мяне, грэшнага, зноў бярэ сумненне, зноў у мяне свярбіць ці шчыміць беларуская душа. Чаму ж конкурс толькі на веданне гэтых моў? А чаму б не дадаць да іх яшчэ і беларускую? Пэўна, пабаяліся таварышы рызыкаваць. Вельмі ж вялікая была верагоднасць таго, што маглі б, як кажуць, ляснуцца і канкурсанты, і арганізатары разам з фундатарамі. Непрадбачаны мог бы быць фінал...

Пераможца першага рэспубліканскага конкурсу прыгажосці сярод мужчын «Містэр ІКС-89» стаў адразу ж славутым. Прынамсі, інтэрв'ю з ім апублікавалі газеты самага рознага рангу. Адна з іх забяспечыла публікацыю ўрэзкай, у якой між іншым адзначаецца: «На другі дзень пасля фіналу ў рэдакцыі зазвінелі тэлефоны: «Дажыліся!» Газета паспрабавала ў інтэрв'ю развеяць гэтае чытацкае абурэннe-сцвярджэнне. А мо дарма?

Хачу быць містэрам Ікс!

**ЛІМАВЕЦ.**

---

**Пытанням экалогіі і архітэктурнай творчасці быў прысвечаны IX пленум Саюза архітэктараў Беларусі. У першы дзень работы ўдзельнікі і госці пленума былі запрошаны на экскурсію, якая прайшла па экалагічна небяспечных мясцінах Мінска і яго ваколіц.**

**Неўзабаве пасля пленума я гутарыла з членам праўлення СА заслужаным архітэктарам БССР Васілісай Паўлаўнай ШЫЛЬНІКОЎСКАЙ. Спецыяліст высокай кваліфікацыі, чалавек няўрымслівай душы і выразнай грамадзянскай пазіцыі, Васіліса Паўлаўна адна з тых нямногіх, на жаль, дзеячаў беларускай культуры, якія ўсё сваё жыццё дзейнічаюць у імя зберажэння прыроды і чалавека ў ёй. Яна аўтар праектаў вадасховішчаў Драздыі Крыніца, рэканструкцыі ўзбярэжнай зоны Заслаўскага вадасховішча. Яе любімае дзецішча — Мінскае воднапаркавае кальцо, паўночна-ўсходняя, Сляпянская частка якога ўжо пабудавана (1977—1988), і дзейнічае, упрыгожвае горад, а паўночна-заходняя, Лошыцкая, будуецца...**

*Экалогія: праблемы, сітуацыі, канфлікты*

# ТУТ СПЯВАЛІ САЛАЎІ...

**— Паварот усяго архітэктурнага цэха тварам да экалогіі — гэта, вядома, адзнака і сімвал часу. Але, мабыць, найбольш блізкая да экалогіі ад пачатку была тая галіна архітэктуры, у якой працуеце вы, — архітэктура ландшафтная.**

— Так, бо яна займаецца адраджэннем прыроды ў горадзе і вакол яго, стварэннем паркаў, лесапаркаў і вадаёмаў. Гэта самыя эфектыўныя і, дарэчы, самыя танныя спосабы аздараўлення навакольнага асяроддзя і ўзнаўлення экалагічнай раўнавагі. Замены ім няма, таму што яны заснаваны на законах прыроды, на яе здольнасцях да самаачышчэння і ўзнаўлення сваіх рэсурсаў. Але калі спадзявацца толькі на гэтыя, экалагічныя, метады і не дбаць пра спосабы горадабудаўнічыя (перапрафіляванне і вынас з горада шкодных прадпрыемстваў, стварэнне вакол іх санітарна-ахоўных зон і г. д.), не клапаціцца пра ўдасканаленне тэхналогій, ачышчальныя збудаванні, дык карысці будзе няшмат.

**— Мяркуючы па нашай экскурсіі і дакладах на пленуме, у Мінску прыкладна так і атрымліваецца.**

— Менавіта так. Хоць за апошнія гады ўдалося зрабіць Мінск больш зялёным, ён застаецца самай буйной крыніцай забруджвання атмасфернага паветра, вады і глебы ў вобласці і рэспубліцы. Каля 500 яго прадпрыемстваў і аб'ектаў цеплаэнергетыкі і транспарту выкідваюць вокіслы азоту і серы, вуглярод, фенол, аміяк, фармальдэгід, аэразолі цяжкіх металаў. Усе гэтыя рэчывы злучаюцца ў паветры і выпадаюць на горад і яго ваколіцы ў радыусе 10—50 км.

**— З Шабаноў, дзе мы спыняліся пад час экскурсіі, выразна бачылася над блізкім Мінскам цёмная «падушка» смогу.**

— Бадай з гэтай «падушкі» ў мінулым 1988 годзе на горад выпала 30 тысяч тон сярністага ангідрыду, 41 тысяча тон вокісі вугляроду і іншых хімічных элементаў і злучэнняў, у тым ліку 2460 тон высокатаксічных і небяспечных. На кожнага мінчаніна прыпала 213 кг шкодных выкідаў.

**— Жахліва! Пачынае здавацца, што гэтыя дзесяткі кілаграмаў прыціскаюць кожнага з нас да зямлі...**

— Ужо сёння 28 працэнтаў захворванняў у горадзе звязваюць з забруджваннем навакольнага асяроддзя. А што будзе заўтра? Незразумела толькі чаму сваёй віны за гэта не адчуваюць кіраўнікі ведамстваў, ад якіх залежыць вынас з горада шкодных цэхаў шэрагу мінскіх прадпрыемстваў.

**— Два буйныя заводы, якія знаходзяцца ў самым цэнтры горада — імя Кірава і імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, апошнім часам нават пашыраюць свае межы...**

— У свой час былі прыняты «Генеральны план развіцця г. Мінска да 2000 г. і праект планіроўкі яго прыгараднай зоны», зацверджаны СМ БССР у 1982 годзе, і «Комплексная схема аховы прыроды г. Мінска і навакольных тэрыторый», зацверджаная Мінгарвыканкомам у 1988 г., якія былі накіраваны на аздараўленне экалагічнай абстаноўкі ў Мінску. Дарэчы, у іх распрацоўцы прымалі ўдзел спецыялізаваныя інстытуты і вядучыя вучоныя-эколагі. Для атрымання абагуленай інфармацыі аб забруджванні тэрыторыі былі выкарыстаны матэрыялы касмічнага маніторынга Дзяржгідрамета і АН БССР.

Невыкананне ўласных пастаноў — наша вялікая бяда. Што тычыцца праектаў рэканструкцыі названых вамі заводаў, дык яны былі заказаны «чужым», не беларускім архітэктарам, таму што самі гэтыя заводы належаць саюзнаму Міністэрству станкабудаўнічай прамысловасці.

**— Відаць, гэта і ёсць праява таго самаўладдзя, самавольства і эгаізму цэнтральных ведамстваў, пра якія столькі апошнім часам гаворыцца?**

— Мяркуйце самі. Генпланам быў прадугледжаны вынас з горада 88 вытворчасцяў. Па дакументах вынесена 21, а на самай справе — 9, з іх 7 — дробныя базы. Вось і ўвесь плён. Праўда, новых прадпрыемстваў у горадзе, можна сказаць, не будуюць. У апошняе дзесяцігоддзе пачалі развівацца прамысловыя зоны па-за межамі горада — у Калядзічах, Гатаве, Шабанах, Міханавічах і г. д.

**— Дык гэта ж нядрэнна?**

— Але і тут ёсць адно «але». Размяшчаліся яны блізка ад горада, фактычна, у яго леса-паркавай зоне. А Мінск тым часам расце, пашырае свае межы. У выніку прамвузлы аказаліся літаральна ля парога горада і, відаць, неўзабаве зусім злучацца з ім. Скажу больш — ніводнае з прадпрыемстваў у прамзонах не мае санітарна-ахоўнай зоны. Побач з імі пабудаваны і працягваюць будавацца жылыя кварталы, тут жа — палі прыгарадных гаспадарак, абсалютна безабаронныя перад выкідамі прамысловасці і транспарту.

**— У Шабанах, сапраўды, дыхаць было цяжка.**

— А мы ж там затрымаліся не болей як на дзесяць хвілін...

**— Неяк недарэчна выглядалі ці не пад самымі заводскімі сценамі вялізныя палі капусты. Гэта, відаць, тая капуста, што ідзе на стол мінчан?**

— Так. Наогул, на маю думку, пытанні развіцця сельскай гаспадаркі ў непасрэднай блізкасці да прамзон патрабуюць спецыяльных даследаванняў і рэкамендацый. Відаць, лепей за ўсё было б весці тут земляробства «закрытага грунту» — вырошчваць гародніну ў цяпліцах.

**— Добра фільтруюць шкодныя выкіды таго ж аўтатранспарту зялёныя пасадкі ўздоўж дарог. Але наколькі я ведаю, па ўсёй Міншчыне апошнім часам прыдарожныя прысады парадзелі.**

— Ды што там — «парадзелі»! На працягу больш чым трох гадоў ідзе арганізаванае знішчэнне зялёных ахоўных па-

(Працяг на стар. 13).

## З пошты «ЛіМа»

# •Ці дапаможа «жалезная рука»? •Колькі плаціць выкладчыку? •Завітаў да нас дэпутат...

□

**Ці трэба** душыць дэмакратыю, якая толькі-толькі нараджаецца, каб дапамагчы перабудове?

У апошні час шэраг асоб, якія лічаць сябе дэмакратамі-інтэлігентамі (С. Аляксееў, І. Клямкін, А. Міграня і інш.), пачалі ў друку ледзь не заклікаць да ўвядзення аўтарытарнага рэжыму, «жалезнай рукі». І ўсё гэта нібыта дзеля таго, каб дапамагчы перабудове, якая буксуе, і спыніць беспарадкі.

Але ж аўтарытарная ўлада ў нашай краіне ўжо існуе. Лідэр сумяшчае тры важнейшыя пасады ў краіне: Старшыні Вярхоўнага Савета СССР, Генеральнага сакратара ЦК КПСС і старшыні Савета абароны краіны. І як бачым, нягледзячы на гэтую вялізную ўладу, не можа пераадолець супраціўлення перабудове. Як піша ў саюзным друку («Литературная газета» за 18 кастрычніка) А. Адамовіч, нейкія «дэмакраты», аб'яднаўшыся з тымі, каму «хацелася б адным ударам вызваліцца ад кашмару будучых альтэрнатыўных выбараў у рэспубліканскія і мясцовыя Саветы, ад гэтых усіх камісій па хабарах і прывілеях, пачаць кіраваць з дапамогай ваеннай сілы», паспрабавалі на пасяджэнні Вярхоўнага Савета СССР, якое не паказвалі па тэлебачанні, увесці надзвычайнае становішча ў краіне. І ўпартых «надзвычайнікаў», і «дэмакратаў» спыніла (на самым краі) вытрымка і разважлівасць старшыні. Так, у нас разумны, добразычлівы лідэр, але рабіць з яго дыктатара, які сілай заганяе нас у шчаслівую будучыню, як некалі сялян у калгасы, — недарэчна!

Здзіўляе, як разумныя, здавалася б, людзі не могуць зразумець, што надзвычайнае становішча не толькі рэзка затармозіць перабудову, але і непазбежна выкліча ў краіне беспарадкі. Як яны не разумеюць, што заклікі больш працаваць і чакаць міласці ад улады, якія мы слухалі многія гады, ні на кога ўжо не дзейнічаюць, што нашы суайчыннікі — такія ж людзі, як жыхары іншых цывілізаваных краін, і таксама могуць ацаніць перавагі свабоды, дэмакратыі. І калі нам дадуць права самім выбіраць кіраўнікоў, то гэтыя кіраўнікі будуць карыстацца аўтарытэтам і будуць больш эфектыўна працаваць, чым тыя, хто стаў кіраўніком тады, калі галоўнымі вартасцямі лічыліся рахманасць, беспрынцыповасць, паказуха.

Менавіта неэфектыўнасць дзейнняў такіх кіраўнікоў, якія займалі пасады дэмакратычным шляхам, прыводзіць да пагаршэння ўзроўню жыцця і беспарадкаў у краіне. Да таго ж, ствараецца часам уражанне, што беспарадкі і разгул злачыннасці звязаны прама ці ўскосна з гэтымі кіраўнікамі. Пра што сведчыць не толькі знікненне з продажу такіх тавараў, як сшыткі, мыла і г. д., на што не маглі паўплываць «лішнія» грошы пакупнікоў, але і павелічэнне злачыннасці побач з рэзкім памяншэннем судовых пакаранняў.

**Л. РАВУН,**
**выкладчык матэматыкі,**
**ветэран працы.**

г. Мінск.

□

**Хачу сказаць** некалькі слоў пра адну далікатную праблему — пра льготы для інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Адразу агаваруся, што я не супраць гэтых ільгот. Усе мы павінны нізка схіліць галовы перад тымі, хто ратаваў нас ад «карычневай чумы». Але ж трэба ўлічыць, што людзі тонка адчуваюць усялякую несправядлівасць. Зараз у які магазін ні зойдзеш — радыётавараў, мэблевы, дзіцячага адзення і харчавання, — усюды чуеш адказ: абслугоўваем ветэранаў вайны. Астатніх або наогул не абслугоўваюць, або прапануюць пачакаць некалькі месяцаў і нават гадоў. Некаторыя могуць сказаць: вінаваты стан нашай эканомікі, на ўсіх не хапае. Але давайце шчыра прызнаем: большая частка ветэранаў многія дэфіцытныя рэчы набывае не сабе, а сваім дзецям, унукам, знаёмым і сябрам (сапраўды, няўжо дзядулі або бабулі носяць дзіцячыя калготы?).

Зараз часта можна пачуць — людзі сталі больш жорсткімі. Адна з прычын гэтага — сацыяльная несправядлівасць. Вось прыклад. У новым доме пасяліліся па суседстве дзве сям'і. Адна адразу займела новую мэблю, халадзільнік, каляровы тэлевізар, а другая (добрая, працавітая сям'я) доўгі час спала на падлозе. А ўся справа ў тым, што ў адных бацька — ветэран вайны і для яго існуюць ільготы, а ў другой сям'і бацька... загінуў на вайне і маці адной давялося гадаваць дзяцей.

У мяне ёсць такая прапанова. Для інвалідаў і ўдзельнікаў вайны пакінуць толькі тыя льготы, якія ім **самім** патрэбны (напрыклад, бясплатныя лекі па рэцэпту ўрача, ільготныя пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку, бясплатны праезд у гарадскім пасажырскім транспарце і г. д.). Можна было б таксама адкрыць спецыяльныя крамы або аддзелы ў крамах, дзе б ветэраны маглі набыць неабходныя ім тавары. І наогул, усю сістэму льгот трэба перагледзець з улікам грамадскай думкі і захавання сацыяльнай справядлівасці.

**В. БАСАК,**
**аспірант БелНДІ**
**глебазнаўства і аграхіміі.**

г. Мінск.

□

**Першага дня** снежня, упэўнены, чакаюць многія выкладчыкі вышэйшай школы. Даволі даўно нам стала вядома, што з гэтага дня павінна быць павялічана наша зарплата. Аднак ці ёсць падставы радавацца? Што такое будучыя 160 рублёў для асістэнта нават пасля сённяшніх, сорамна казаць, — 125 рублёў? Ды яшчэ ва ўмовах нашай галапіруючай інфляцыі, дэфіцыту самых неабходных рэчаў. Ну а дацэнты, прафесары? У іх таксама мала што змянілася: павышэнне заробку на 20—30 рублёў, а ў некаторых ён стане нават меншым. Як гэта можа быць? Зараз для кожнай пасады зроблены так званыя «нажніцы» ў аплаце. Калі цяпер старшы выкладчык, кандыдат навук са стажам ад 5 да 10 год атрымлівае 280 рублёў, то пасля ўвядзення новых расцэнак «нажніцы» для яго наступныя: ад 250 да 280 рублёў. Хутчэй за ўсё, як у нас прынята, у смету закладуць сярэднюю суму (ужо мінус 15 рублёў). А калі яшчэ, не дай божа, на кафедры адносіны складаныя, тады і атрымаеш па ніжняй мяжы. Такім чынам нешта і назбіраецца ў фонд кафедры, каб ужо потым падкінуць некаму 5—10 рублёў. А бюракраты з усмешкай паціраюць рукі: яны тут ні пры чым, бо кафедра сама вырашае, каму якую зарплату даць. У выніку — скаргі, сапсаваныя адносіны паміж выкладчыкамі і г. д. У рэктарат не пойдзеш, у бухгалтэрыю — таксама, прафсаюз — смешная абарона, у суд ісці — таксама час марнаваць.

Не ўсе, напэўна, ведаюць, праз якія шыпы ляжыць шлях да працы ў вышэйшай навучальнай установе. 18 гадоў трэба вучыцца (10 — школы, 5— універсітэта ці інстытута, 3 — аспірантуры). Гэта азначае — жыць па-за мяжой жабрацтва. Пасля заканчэння аспірантуры выкладчык мае недзе 140 рублёў і ўсё. Ні нармальнага жылля, ні ўмоў для працы. У якой яшчэ галіне народнай гаспадаркі так нізка цэніцца праца людзей, якія рыхтуюць пакаленні новых высокакваліфікаваных спецыялістаў?

Якое ж выйсце? На маю думку, трэба ў рэспубліцы перагледзець «павышэнне» аплаты працы выкладчыкам вышэйшай школы, якое ўваходзіць у дзеянне з 1 снежня г. г., скарыстаўшы пры гэтым вопыт іншых краін свету; звярнуцца праз дэпутатаў у Вярхоўны Савет БССР з тым, каб з 1 студзеня 1990 года часова выплачваць выкладчыкам рэспубліканскіх ВНУ сярэднюю заработную плату высокакваліфікаванага рабочага (як гарантаваны мінімум) з даплатай у залежнасці ад пасады, навуковага звання, стажу і г. д.; адмяніць «нажніцы» ў аплаце працы выкладчыкаў; стварыць ініцыятыўную групу па абароне правоў выкладчыкаў.

**У. ЛЮКЕВІЧ,**
**старшы выкладчык кафедры**
**філасофіі Брэсцкага**
**дзяржаўнага педагагічнага**
**інстытута імя А. С. Пушкіна.**

□

**Пра тое,** што на пасяджэнні гарсавета было вырашана правесці 14 кастрычніка суботнік па падрыхтоўцы да 850-годдзя Гомеля, я даведаўся з газеты «Гомельская праўда». Потым тое ж пачуў па абласным радыё. Вырашыў прыняць у гэтай акцыі ўдзел, і таму зранку паспяшаўся ў парк да сабора Пятра і Паўла. Гомель увогуле небагаты на помнікі мінуўшчыны, а згаданы сабор толькі што перададзены веруючым (дзякуй вядомаму лісту лепшых прадстаўнікоў нашае інтэлігенцыі), — таму дзівосную перліну архітэктара Джона Кларка трэба ратаваць неадкладна. Тым больш добра было б аднавіць сабор да 850-годдзя горада.

Я меркаваў, што прыйдзе шмат энергічных, зацікаўленых, шануючых беларускую спадчыну людзей, у тым ліку камсамольцаў. Прыходжу да сабора і бачу толькі чалавек дзесяць маладых людзей з нейкімі прыгожымі значкамі на грудзях. Усе гаварылі па-беларуску, з чаго я зразумеў, што гэта сябры тутэйшага патрыятычнага клуба «Талака». Разам мы ачысцілі ад старое аблупленае фарбы некалькі вялікіх вокнаў.

А яшчэ талакоўцы расказалі мне, што, апрача іх, ніхто веруючым аднаўляць сабор не дапамагае. «Сэрца крывёю абліваецца, — казаў Алесь Яўсеенка, прэзідэнт клуба, — калі бачыш, як старыя з кавенькамі з апошніх сіл цягнуць таўшчэзныя дылі. У гарвыканкоме разважаюць так: веруючыя ўсё самі зробяць, мы ж ім сабор падаравалі».

**У. СЛАБІН,**
**сакратар камсамольскага бюро**
**ІММС АН БССР.**

г. Гомель.

□

**У Вярхоўны Савет СССР** ад Бабруйскай выбарчай акругі быў выбраны генерал-палкоўнік І. І. Корбутаў. Тая акалічнасць, што ў Корбутава не было саперніка ў час прадвыбарчай кампаніі, не вельмі бянтэжыла людзей, бо не прывыклі яны да альтэрнатыўных выбараў. А тут жа — прадстаўнік нашых славутых Узброеных Сіл. Але пасля таго, як І. І. Корбутаў стаў дэпутатам, то на доўгі час знік з поля зроку сваіх выбаршчыкаў. На гарадскім мітынгу 8 верасня многія бабруйчане выказалі сваё недаўменне з гэтай нагоды, і тады першы сакратар гаркома партыі В. П. Алімбачкаў запэўніў людзей у тым, што паспрабуе адшукаць Корбутава...

І вось у кастрычніку народны дэпутат І. І. Корбутаў завітаў у Бабруйск. Я з хваляваннем чакаў сустрэчы з ім, і вось чаму: моўнае пытанне ў Беларусі — балючая праблема. Мы — беларусы на сучасны момант сталі перад фактам знікнення роднай мовы, а Корбутаў прадстаўляе нашу рэспубліку ў Савеце Нацыянальнасцей. Я хацеў спытаць дэпутата, што канкрэтна ён будзе рабіць для вырашэння гэтага пытання.

І вось сустрэча. Актавая зала Першамайскага райкома партыі амаль пустая, два дзесяткі чалавек. Насцярожвае абыякавасць людзей. Няўжо ў нас усё так гладка, няма праблем? І гэта ў той час, калі атручана радыенуклідамі значная частка нашай зямлі і востра стаіць пытанне аб высяленні людзей з небяспечнай зоны, не гаворачы ўжо пра экалагічны і духоўны заняпад.

Прамова Корбутава ўразіла нетактоўнасцю ў адносінах да іншых народных дэпутатаў, але больш за ўсіх дасталося А. Адамовічу. Пісьменніка генерал абвінаваціў у тым, што той апантана займаецца справай рэабілітацыі нявінна асуджаных і загінуўшых сталінскіх ахвяр.

Я не вытрымаў, папрасіў слова і, вядома, загаварыў па-беларуску. Спачатку ўсе прыціхлі, а Корбутаў вельмі насцярожыўся, а потым абарваў мяне, загадаўшы гаварыць «как нужно», гэта значыць — па-руску. Падтрымалі дэпутата і некаторыя прысутныя ў зале, абвінавацілі мяне ў нацыяналізме. Дагаварыць мне не далі. Я толькі і паспеў сказаць, што непавага да спадчыны, непавага да сваіх продкаў — ёсць прыкмета дзікунства і варварства. Зняважаны, я пакінуў залу. І вось цяпер праз вашу газету хачу адказаць, чаму я загаварыў па-беларуску.

Па-першае, пры ўсёй маёй павазе да мовы рускай, і да ўсіх моў свету, родная мне зручнейшая, яна мне цяплейшая, я з ёй нарадзіўся.

Па-другое, я размаўляю на роднай мове ў сябе дома (вынікае пытанне, дзе ж тады мне на ёй гаварыць?). Я люблю сваю зямлю і хачу адчуваць сябе прадстаўніком свайго, беларускага народа.

І па-трэцяе. Я лічу, што чалавек, які прадстаўляе маю Беларусь у Савеце Нацыянальнасцей СССР, павінен паважаць і маю мову.

**К. ЮРКАВЕЦ,**
**нафтавік-бурыльшчык.**

г. Бабруйск.

□

*ЛІСТ У ВЕРШАХ*

## Чалавек з плакатам

Што за дзіва, дайце веры!
Думаць страшнавата:
Кажуць, там стаіць у скверы
Чалавек з плакатам.

«Што за дурань,— кажуць людзі,—
Мае ж ён ахвоту!
Што яму з таго прыбудзе?
Вось знайшоў турботу...»

«Развялі тут нефармалаў, —
Цэдзяць бюракраты. —
Ды яго павесіць мала,
А найперш — за краты!»

Сталініст пацягне млосна
Руку да кішэні.
Плюне ў твар жанчына злосна,
Скажа: «Адшчапенец».

Хто такі, з якой нагоды —
Ёй жа невядома,
Але так казаў на сходзе
Сакратар парткома.

Страж парадку абмінае
Вырадка з касцетам,
Злодзей, бомж не замінае,
А зараза гэта...

Хоць наўкол разгул навалы
Самай нізкай пробы,
Не за іх, за нефармала
Вывернуць вантробы...

Так ва ўсе часы бывала:
Пад разгул мярзоты
Змагарам у твар плявалі
Рабскія істоты.

**В. ЛІСТАПАД.**

в. Лучнікі
Слуцкага раёна.

**На пісьменніцкіх сходах і пасяджэннях неаднаразова даводзілася чуць пра неабходнасць абнаўлення форм арганізацыйнай і творчай работы ўсіх падраздзяленняў СП БССР, у тым ліку і творчых секцый. Аднак аднаго ўсведамлення праблемы тут недастаткова. Пакуль што толькі публіцысты паказалі прыклад актыўнасці і мэтанакіраванасці. Што іншыя жанры як бы адышлі сёння на задні план і назапашваюць сілы, паказала і сумеснае пасяджэнне секцый паэзіі і крытыкі: яно было нешматлюдным. Нягледзячы на гэта, гаворка ўсё ж адбылася.**

**Досыць ёмістая фармуліроўка — «Паэтычнае слова і час» — дазваляла закрануць многія аспекты вынесенай на абмеркаванне тэмы. Выступаючыя — у пераважнай большасці крытыкі — гаварылі пра паглыбленне драматычнага пачатку ў сучаснай паэзіі і разнастайнасць яе мастацкай палітры, пра крызіс паэтычнага эпасу, пра ўзрослую публіцыстычнасць паэтычнага слова і яго незапатрабаванасць чытачамі. Л. Дранько-Майсюк выказаў меркаванне, што зварот да публіцыстыкі ў паэзіі не заўсёды апраўданы, пры гэтым ён спасылаўся на вершы П. Панчанкі, Д. Бічэль-Загнетавай, Р. Баравіковай і на свае ўласныя публіцыстычныя спробы. М. Мушынскі ўспрэчыў паэта і падкрэсліў, што зварот да прамога пра*маўлення ў таго ці іншага* аўтара — працэс заканамерны, выкліканы яго творчай эвалюцыяй.**

**Парадаксальна прагучала з вуснаў С. Кавалёва сумнавядомая цытата пра тое, што «кадры рашаюць усё». «Якія ў нас кадры, такая і паэзія», — рэзюміраваў малады крытык. Відаць, ён меў на ўвазе недастаткова высокі духоўны і інтэлектуальны ўзровень многіх з тых, хто лічыць сябе прафесійным пісьменнікам. Такая ж дум*ка прагучала* і ў выступленні М. Мушынскага: «Усё залежыць ад асобы, ад той задачы, якую яна перад сабой ставіць».**

**Г. Каржанеўская (яна разам з намеснікам старшыні бюро секцыі крытыкі А. Клышкам вяла пасяджэнне) адзначыла прыкметны паэтычны рост М. Дуксы, А. Каско, Н. Гальпяровіча, С. Сокалава-Воюша. З лепшых нізак апошняга часу вылучыла публікацыі Н. Гілевіча і М. Кусянкова ў «ЛіМе», Р. Барадуліна і Л. Тарасюк у «Маладосці», В. Куртаніч і В. Маслюка ў «Беларусі». Найбольш характэрным недахопам многіх вершаў надзённай тэматыкі яна лічыць «жаданне ўліць новае віно ў старыя мяхі». Невысокімі з'яўляюцца і крытэрыі адбору ў некаторых выданнях, што ўрэшце адбіваецца як на самой *паэзіі*, так і на мастацкім гусце чытачоў.**

**Разгорнутыя паведамленні пра стан сучаснай паэзіі, якія зрабілі крытыкі А. Рагуля і Т. Чабан, мы вырашылі апублікаваць з неістотнымі скарачэннямі.**

**АДДЗЕЛ КРЫТЫКІ «ЛіМа».**

Тамара ЧАБАН

# СЛОВА Ў «ЗОНЕ МАЎЧАННЯ»

«О Й, чаму я стаў паэтам у нашай беднай старане...» — міжволі ўспамінаецца ўздых-нараканне Максіма Багдановіча. Успамінаецца сёння у размове пра сучасную паэзію, бо і праз стагоддзе быць паэтам у нашай беднай старане не стала лягчэй.

Трагізм незапатрабаванасці кладзе змрочны адбітак на сучасную паэзію. Знікае годнае высокае ўсведамленне самадастатковасці, вышэйшай правоты мастацкага слова, якое абавязкова будзе пачута, калі не сучаснікамі, то нашчадкамі. Слова, адгароджанае «зонай маўчання», беспаветранай прасторай, не маючы водгуку, зваротнай сувязі, губляе натуральны, ненатужны тэмбр голасу, і крык яго непачуты роўны маўчанню. Якая ўжо там галоснасць... «Каторы год крычу, крычу я, малю ратунку для жывых, ніхто пакутнікаў не чуе...» — піша С. Грахоўскі ў вершы з характэрнай назвай «Маўчанне».

Па вышэйшаму рахунку, каб вярнуць чытача, недастаткова «павышэння мастацкага ўзроўню твораў». Трэба вярнуць мову, культуру, гісторыю, народ і радзіму. Але ж нездарма сцвярджалі мудрыя: «Лекар, вылечыся сам». Памятаючы, што «хваробы лечаць і атрутамі», паэзія прымае горкія пілюлі шаржу, самаіроніі, пакаяння. Па-народнаму дасціпны і здзекліва-горкі смех з самой сябе, з той пачварнай, застойнай атмасферы, у якой яна была вымушана жыць і тварыць, — сатырычная ананімная паэма «Сказ пра Лысую гару», «Смаргонская акадэмія» Р. Барадуліна, «Наскрозь» У. Някляева, вершы П. Панчанкі...

Часам лекары-крытыкі ставяць і «лятальны» дыягназ: «Літаратура наша хворая. І, можа быць, нават смяротна» (С. Дубавец). Не ведаю, наколькі сур'ёзна вымавіў гэтыя словы крытык. Калі сур'ёзна, то навошта тады займацца крытыкай, мітусіцца вакол канаючага? Адыдзі і дай спакойна памерці.

Вядома, суцяшальным ВРЗ падманваць хворую літаратуру (а якой яшчэ яна можа быць на хворай зямлі і ў хворым грамадстве?) несумленна. Але і такой «шокавай тэрапіяй» ні літаратуру, ні грамадства, ні чытача ўжо не абудзіш. Гэта калі ў часы Пушкіна крытык вымаўляў «У нас няма паэзіі», ён мог тым устрывожыць душы. У наш час усеагульнага дэфіцыту, матэрыяльнага і духоўнага, фразы накшталт «у нас няма паэзіі» або «няма літаратуры», і нават «няма мовы», «няма нацыі» не выклікаюць асаблівага эфекту. Няма дык няма, такой бяды...

Іншая справа — пачуць, што ў нас усё ж нешта ёсць. Вось мы трымаем у руках факсімільна выдадзены важкі том «Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г.» — нашага першага ў Еўропе зводу законаў, пісанага старабеларускай мовай. Хутка ўбачым «Біблію» Скарыны, беларускія летапісы, газету «Наша Ніва» ў факсімільных выданнях... Адна справа ведаць апрыёры, што недзе нешта знаходзіцца ў сховішчах-падвалах маскоўскіх, ленінградскіх, лонданскіх ці кракаўскіх бібліятэк, другая — трымаць у руках. У час падаспела духоўная падмога продкаў...

Вяртаецца старажытная літаратура, вяртаюцца невядомыя Купала і Колас, паэзія пачатку XX стагоддзя — Гарун, Арол, Сваяк, Дарашкевіч, Ластоўскі, Арсеньева... Вяртаецца з турмаў і лагераў, з паўвяковай «зоны маўчання» рэпрэсіраваная паэзія — тых, што загінулі ў пакутах, тых, што цудам выжылі і пранеслі праз усе кругі пекла жывую душу, каб сёння сведчыць, перасцерагаць, будзіць памяць і сумленне, — Л. Геніюш, С. Грахоўскі, А. Звонак...

Я лічу, што як ні парадаксальна гэта гучыць, нам патрэбна і яшчэ адно вяртанне — вяртанне паэзіі 60—80-х гадоў — паэзіі Куляшова, Танка, Панчанкі, Пысіна, Дзяргая, Вялюгіна, Караткевіча, Стральцова, Барадуліна, Русецкага, Бачылы, Сіпакова, Вярцінскага, Гілевіча, Гаўрусёва, Зуёнка, Янішчыц...

Здавалася б, хрэстаматыйныя, вядомыя імёны, але іх паэзія ў большасці сваёй не прачытана не толькі, як мы кажам, «шырокім колам чытачоў», але і крытыкай, занядбана абывацельскай глухатою, абвінавачана ў правінцыйнасці, сярмяжнай шэрасці, або, наадварот, ушчэнт «зачытана», схематызавана, заглянцавана ў лепшым духу сацрэалізму. Адыходзіць эпоха, якая забярэ з сабой тое, што напісана ёй ва ўгоду, а сапраўднае — застанецца. Калі адкрыецца цэласная карціна нацыянальнай гісторыі, культуры, літаратуры, то і сучасная паэзія не будзе ўспрымацца як «адлучаны ад дзераўца лісток», які кожны можа адкінуць, а як прыўкрасная, жывая галіна на магутным дрэве духоўнага жыцця.

Вяртанне сучаснай паэзіі адбываецца і ў прамым сэнсе — вяртанне з «унутранай эміграцыі», якую адзін рускі паэт назваў «эмиграция в себя». У канцы 60-х гадоў, пасля выдання таленавітай першай паэтычнай кнігі, пайшоў у невядомасць, у самотныя блуканні па Брэстчыне Мікола Купрэеў, каб вярнуцца цяпер з падарваным здароўем, але з чыстай душою і кайстрай цудоўных вершаў (нагадаю яго публікацыі ў «Маладосці», «ЛіМе», «Дні паэзіі-88»). У наступным «Дні паэзіі», пасля трыццацігадовага маўчання, з'явяцца новыя вершы Алеся Наўроцкага, душа якога не маўчала гэтыя гады. Сумнае і позняе вяртанне...

«Балючая памяць», «Паэма тугі», «Паэма сораму і гневу» — самі назвы твораў апошніх гадоў гавораць пра асноўны тон і пафас нашай паэзіі. Баліць сталіншчына і вайна, баліць гісторыя і мова, прырода і культура, сацыяльныя праблемы, смяротным ядам атручвае кроў і гены Чарнобыль... Першая рэакцыя на боль — крык, стогн, праклянцце, гнеў... Сучасная паэзія, і не толькі беларуская, вось ужо некалькі год свядома скіравана на публіцыстычнасць, на прамое, амаль бязвобразнае слова, дзе боль і сорам, туга і гнеў замяняюць эпітэты і метафары.

Як успрымаць гэтую паэзію і ці паэзія гэта ўвогуле? «Вялікую сілу мае слова балючага сэрца», — казаў калісьці З. Бядуля. Нельга не ўбачыць, як нараджаецца з болю высокая, сапраўдная паэзія Панчанкі, як уздымаецца і прасвятляецца ім паэзія Н. Гілевіча, М. Арочкі, В. Віткі, С. Законнікава, як абнаўляецца і па-новаму гучыць паэтычнае слова У. Паўлава, В. Жуковіча, К. Цвіркі, С. Панізніка...

Цікава, што найбольшую цягу да публіцыстычнасці мае пакаленне 60-х гадоў, якое армянскі паэт Г. Эмін назваў

**(Працяг на стар. 6—7).**

Аляксей РАГУЛЯ

# ПУНКТ АПОРЫ

Янка Купала напярэдадні жахлівай містэрыі XX стагоддзя невыпадкова звярнуўся да вобраза прарока. Купалаўскі прарок нёс «вялікіх праўд святы агонь» людзям, якія ў забраным краі страцілі імя, памяць. Па сваёй палітычнай слепаце яны нават не заўважылі, што даўно сталі матэрыялам для эксперыментаў:

**Тутка мы п'яны, ах, п'яны...**
***Як сэрца ядам змяі.***
**Тут, нам праўда не знана —**
**Хто мы: звяркі ці людзьмі.**

Але місія прарока была адкінута і забыта, эталонам у паэзіі стаў рамеснік, здольны аздобіць барабанным боем чарговы спушчаны зверху сацыяльны заказ. Бюракратыя хацела б і сёння мець армію літаратурных наймітаў, якія могуць лёгка наступіць на горла ўласнай песні, растаптаць голас уласнага сумлення. Праўда, ёй пакуль што не ўдалося падфарбаваць рамеснікаў — «рэтушораў», як трапна сказана ў адным з твораў Г. Каржанеўскай,— давесці да ўзроўню эталона.

Напружанае асэнсаванне гістарычнай трагедыі беларускага народа ў жанры філасофскай лірыкі і лірыка-філасофскай паэмы прывяло А. Куляшова зноў на сцяжыну прарока:

**Далёкае разгледзь арлiным вокам,**
**Лаві на слых ледзь чутны крык бяды:**
**Мяне абраўшы, мусіш быць пракокам.**
**Як не пракокам, кім жа быць тады?**

У свой час Кузьма Чорны вынікі асэнсавання трагічнага лёсу народа ўвасобіў у вобразе вялікага злодзея. З прасякнутай трагедыйным пафасам паэзіі А. Куляшова вырысоўваецца вобраз часу, які нагадвае ката з сякерай у руках. Людзі перад ім — што лес: лёс у іх падобны: «адабраўшы часам і хваробай сілу, лёс кладзе іх разам, у адну магілу». У вершах Аляксея Пысіна паўстае вобраз рэчаіснасці, у якой усё жывое «сцякае» ці сплывае: на вайне «Аляксеі, Віктары, Іваны» сцякалі крывёю, узышлі «хто травой, хто гарыцветам», а затым «сцяклі» рэчкі, мова, з «яснай явы» сышлі вёскі.

У другой палове 50-х і 60-х гадоў асаблівае сэнсавае напаўненне ў творчасці Максіма Танка атрымалі асацыятыўныя вобразы заапарка і цырка з надзейнымі клеткамі для львоў і арлоў. У вершах-прытчах паэта магутныя ўладары роднай стыхіі сваю сілу і спрыт дэманструюць па загаду дрэсіроўшчыка «на шумнай цыркавой арэне», падтрымліваючы ілюзію росквіту творчых сіл асобы.

Матыў «развітання», які ў аднайменным вершы Пімена Панчанкі прагучаў для некаторых крытыкаў так непрывычна і неспадзявана, быў заканамерным. У лірыцы П. Панчанкі 60-х гадоў «шалёны свет» стаў ахвярай архісучаснай арытміі. Калі б крытыка ў часы брэжнеўскага ілюзіёну была больш уважлівай да павеваў часу і паэтычнага сэнсу слова, яна магла б адчуць дыханне катастрофы нават у творчасці паэтаў, якіх адназначна адносіла да выключных аптымістаў:

**Жывіце і любіце,**
**Свой беражыце дом.**
**...Як птушку у зеніце,**
**Мяне застане гром.**

**Была ў жыцці я весняй,**
**І лёгкай на ўзмах**
***Над соснамі — у лесе,***
***Над жытам — у палях.***

**Таму раскажуць сосны,**
**Жытоў паспелых звон**
**Пра лёс мой высакосны**
**І невыносны сон.**

**Зямля — мая калыска,**
**Табе адной відаць,**
**Што немагчыма нізка**
**Ні падаць, ні лятаць.**

Гэты запавет Яўгеніі Янішчыц змешчаны ў зборніку 1980 года «На беразе пляча». Пасля трагічнай гібелі паэтэсы ён успрымаецца так, як некалі пасля смерці Анатоля Сербантовіча ўспрымаўся ягоны верш «Няма мяне». Пара, нарэшце, усім зразумець, што ў нетрах свядомасці ціхага беларуса выспявае бура. Не можна было не заўважыць, пакуль чалавек мог спадзявацца на духоўны прытулак у вёсцы, дзе цешылі вока чыстыя крыніцы, лашчыла слых родная мова, людскасць і прадбачлівасць чалавечых адносін мацавала пачуццё ўпэўненасці. Разам з рассяляньваннем усё «сцякло» ў нябыт.

У зборніку Леаніда Галубовіча «Споведзь бяссоннай душы» праца свядомасці пачынаецца з рубяжа, дзе «надзей бурлівых перасох выток»:

**Нам цяпер, на самым зрэзе веку,**
**У яго зацішках і грамах,**
**Дагукацца як да чалавека?**
**Дух крычыць, а голасу — няма.**
**Голас ёсць, то духу не хапае.**
**Блізка мы.**
**І бездань тут і страх...**
**І душа над безданню — сляпая —**
**І яе не стрымаеш ніяк...**

Доўгі час на паэзію Алеся Разанава было прынята глядзець як на нешта неўласцівае беларускаму паэтычнаму слову. У рэцэнзіі на зборнік «Вастрыё стралы» У. Конан раскрыў сувязь версэтаў А. Разанава з філасофскай праблематыкай эпохі. Разам з тым трэба адзначыць, што паэзія А. Разанава вырасла цалкам на нацыянальнай беларускай глебе, што яна не менш традыцыйная за ўсялякую іншую, толькі традыцыйная сувязь праяўляецца не ў знешніх атрыбутах, а на глыбінях асацыятыўнага зместу. Лірычны герой яго вершаў — наш сучаснік. Як і іншыя яго суайчыннікі, ён апынуўся ў тупіку, няхай сабе і не над безданню, дык затое абложаны камянямі і сценамі. Яны сцерагуць яго бяспеку і не пускаюць у свабоду, яны сталі нават яго «вонкавым целам» — працягам чалавека. Яны яго пераконваюць, як некалі смерць пераконвала кантужанага Мірона

**(Працяг на стар. 6—7).**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## *Выступленне ў школе*

> Не многым учителем бывати, но более умети язык свой справовати...
>
> Ф. СКАРЫНА.

**Мая парада, светлыя сябры, —**
**народным словам**
**смела прычасціцца.**
**Бо сам я мітусіўся да пары,**
**скакаў, як тая — восенню — сініца.**

**Прыходзіць разуменне спакваля.**
**Мне сорамна было**
**між добрых людцаў**
**да мовы акалелай прыгарнуцца,**
**сказаць, хто — я, і — дзе мая зямля...**

**Таму і зычу шчыра, дружбакі,**
**жывыя струны**
**абуджаць у сэрцы, —**
**бо на яго набматваць давядзецца**
**балюча-ачарсцвелыя вякі.**

**А гэтая работа, знаю сам,**
**не даспадобы розным маралістам:**
**яшчэ і сёння ў Мінску многа свісту...**
**Я ж зычу волю**
**чыстым галасам.**

**Не агітую сёння ў школе вас**
**на парты лезці,**
**а тым больш пад парты.**
**Вы — заўтрашні народ. Пакажа час,**
**хто тут вучыўся, шчыры і упарты.**

**З нас кожны несмяротны толькі тым,**
**што ёсць Айчына**
**на зямлі Саветаў.**
**Услухайцеся ў мову запаветаў,**
**дзе кожны кліч належыць маладым.**

## *Катэхізіс*

**80-я гг. XX ст.**

**— Ці ёсць ты, беларус?**
**— Іду, нягеглы, хілы,**
**дарогай, дзе стаяць**
**Дубок, Бяроза, Клён...**
**Так хочацца сказаць,**
**пра што маўчаць магілы:**
**злучыць сваё імя**
**з мільёнамі імён.**

**— Які ты, беларус?**
**— Двухрукае стварэнне...**
**Я сам каваў кляймо**
**для сэрца, галавы...**
**Ішлі ва ўслугачы —**
**у каго было натхненне;**
**у каго была любоў —**
**праглядваюць з травы.**

**— Кім будзеш, беларус?**
**— Нясу вякоў няшчасце.**
**Хто мне наканаваў**
**такі пакутны скон?**
**Прымаў крывіч, ліцьвін**
**знішчальнае прычасце.**
**Вось помнікі стаяць:**
**Дубок, Бяроза, Клён.**

**— Паўстаў Народны фронт?**
**— Ці ён збярэ Пагоню**
**адбіць нямы палон**
**і страты ўсе вярнуць...**
**Як лёгка выміраць,**
**сыходзіць у спакойню:**
**суседзі не клянуць,**
**і дзеці не завуць.**

**— Няўжо ў вас не крычаць**
**заўчасныя магілы?**
**— Са стогнаў іх растуць**
**Дубок, Бяроза, Клён.**
**Я з імі не слабы,**
**ад іх прымаю сілы**
**злучыць сваё імя**
**з мільёнамі імён.**

**— Няўжо і беларус —**
**няўклюда, недарэка —**
**дзяржаўныя шляхі**
**адродзіць ад крыніц?**
**— Ажывім бальшакі,**
**свае спатолім рэкі,**
**і стрэлы палачан**
**прытулім да байніц...**

**Дубок, Бяроза, Клён**
**чакаюць: будзе плён!**

*Да 90-годдзя з дня нараджэння Міхася ЛЫНЬКОВА*



# *Бачыў вечнасць*

Гады два таму назад звярнулі на сябе ўвагу радкі, якія выклікалі пачуццё нязгоды: «Самае страшнае — сысці са сцэны і быць забытым пры жыцці. Пры эгаізме нашых вучняў, пры іх веры ў сваю геніяльнасць здарыцца такое можа нават з нашым братам, пісьменнікам. У нейкай меры гэта пераажыў Міхась Лынькоў». Думаецца, што для сур'ёзнага пісьменніка клопат пра тое, каб утрымацца «на шумнай цыркавой арэне» ўсё ж не галоўны, а недахоп эстраднай папулярнасці — не «самае страшнае». А што датычыць Міхася Лынькова, то жыццёвасць яго духоўнай спадчыны не залежыць ад памяці ці бяспамяцтва тых «уюнашаў», якія свой творчы радавод выводзяць у залежнасці ад кан'юнктуры.

Міхась Лынькоў не сыходзіў са сцэны, яго лепшыя творы былі і застаюцца нацыянальным духоўным скарбам. І невыпадкова сучасныя буйнейшыя пісьменнікі на пачатку свайго шляху арыентаваліся на грамадзянскую пазіцыю Міхася Лынькова. Янка Брыль заўважыў, што нават «і ў маўчанні яго было тое, на што—цяпер гэта відаць нам выразней—можна было і добра было абаперціся, як на надзейны аўтарытэт сумленнасці».

Сёння, калі ўзнікла неабходнасць глыбей зразумець час, гісторыю, эпоху, самую Кастрычніцкую рэвалюцыю, спадчына Міхася Ціханавіча Лынькова — удзельніка і сведкі глыбінных зрухаў у нашай гісторыі—таксама добрая і надзейная духоўная апора. Сучаснікам адкрываюцца новыя пласты зместу яго прозы. Успамінаецца рэпліка Івана Мележа: «Стаяў над дробязлівасцю жыцця і добра вылучаўся сярод ссівелых паставатых трапетуноў. Як бы глядзеў, бачыў вечнасць». Трапетуноў недалюбліваў і Кузьма Чорны, які таксама суадносіў лёс чалавека з уладай «вечнасці». Кожны з пісьменнікаў ішоў да агульначалавечай праблематыкі, выкарыстоўваючы сваю сістэму вобразаў. У аўтабіяграфіі «З родных крыніц» Міхась Лынькоў успомніў адно з найбольш яркіх уражанняў маленства — спробу схапіць голай рукой чырвонае шкельца, умерзлае ў лёдзе. Жыццё потым неаднаразова пацвярджала першапачатковы вопыт; за спробу выхапіць з ледзяной глыбы «аскелачак жывога сонца» даводзілася плаціць кроплямі гарачай крыві. Гарачае сэрца ў ледзяных абдымках вечнай мерзлаты — «неўміручая крыўда над чалавекам, над чалавечым жыццём», — гэты сімвал складае аснову вобразнай структуры твораў М. Лынькова. У раннім апавяданні «Чыгунныя песні» назаўсёды патухла печка ў дарожнай будцы і назаўсёды застыла ў прамерзлым стэпе замардаваная бандытамі Арынка. Малады чырвонаармеец ніяк не можа прымірыцца з тым, што так ярка блішчыць на марозе чырвань крыві: «рэжа вочы».

Асноватворчыя дэталі сімволіка-алегарычнай сістэмы ў «Чыгунных песнях» пададзены надзвычай канцэнтравана. Вобраз «культурных» бандытаў тут таксама невыпадковы. Пісьменнік у гады грамадзянскай вайны змагаўся з бандамі. Наш сучаснік ужо добра ведае навейшыя формы бандытызму—мафію, карупцыю, рэкет. М. Лынькоў у 20-х гадах папярэджваў, што бандытызм—самая небяспечная разнавіднасць контррэвалюцыі. Пра гэта ён гаварыў не толькі ў творах пра грамадзянскую вайну.

Сімвалічнае значэнне мае ў творах М. Лынькова і вобраз цягніка. Рух у камуністычную даль—гэта песня людзей, якія ў ходзе рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця нібы нанова нарадзіліся на свет. Песня гэтая, аднак, застаецца недапетай, яна абрываецца разам з жыццём людзей, ледзь пачаўшыся.

М. Лынькоў пайшоў, насуперак псеўдарэвалюцыйнаму радыкалізму ў эстэтыцы, на смелае спалучэнне традыцыйнай сказавай стылістыкі з рэвалюцыйнай сімволікай новага часу. Ён арганічна ўключаў рэвалюцыйную актыўнасць асобы ў сістэму дзеяння вечных законаў быцця. Такое спалучэнне розных сімвалічных пластоў узбагаціла творы М. Лынькова глыбокім падтэкстам. Яго

**Георгій МАРЧУК**






**Закончыў раман «Вочы і сон», у якім паўстае атмасфера 60—70 гадоў у раённым мястэчку. Дзеянне падаецца праз прызму загадкавага мінулага начальніка аддзела ўнутраных спраў і другога сакратара райкома партыі. Як і галоўны герой твора, я веру, што заўсёды знойдзецца мужная душа, якая, як бы ёй ні было цяжка і адзінока, абароніць праўду, ісціну і дабро.**

**Прапаную чытачам «ЛіМа» ўрывак з рамана.**

**АЎТАР.**

ІВАН пераавёў дых, зіркнуў з-пад броваў на Кастуся і выціснуў з сябе:

— Забіць мне трэба аднаго чалавека.

Асцярожны і палахлівы Кастусь уцягнуў галаву ў плечы, азірнуўся наўкола.

— Ну, ведаеш, апошнія два гады я развучыўся разумець, што такое жарт.

— Я не жартую.

— Ты разумееш, што пляцеш?—пайшоў у наступленне Кастусь.

— Разумею. У мяне сэрца часам моцна ціcне, баюся, што не дажыву да волі. Трэба, разумееш, усё адно як хвароба напала, трэба! Ты хацеў шчырай праўды—я сказаў,—як бы просячы прабачэння, закончыў Іван.

— Та-ак-с... Раскольнікаў. І хто ж гэты чалавек, калі не сакрэт?

— Начальнік міліцыі аднаго раёна на перыферыі.

— Та-ак-с... У прынцыпе ўсё магчыма пад гэтым грэшным небам. Хочаш адпомсціць за тое, што незаслужана пасадзілі? У прынцыпе... Калі нават у стадыі афекта там, з рэўнасці, дапусцім, на 36-ю пойдзеш, то мне, як саўдзельніку, прыпаяюць яшчэ на два кастылі па году.

— Косця, не здзеквайся. Я да цябе, як да брата. Калі я вырашыў табе аднаму адкрыцца, хіба ж я выдам цябе? Зямлю грызці буду, на валасах павешуся, а ўсё, што сёння паміж намі — гроб-магіла. Чорт ува мне сядзіць. Не магу больш трываць, сэрца лопне. Пра гэта і думаю ўвесь час, як звар'яцелы.

— Усё бывае. Павер. У чалавека недасканалая нервовая сістэма. У цябе звычайнае перанапружанне.

— Не. Гэта зусім іншае.

— Добра. Дапусцім... у прынцыпе. А што, ён сапраўды заслугоўвае, каб яго забіць, твой крыўдзіцель? Ці, можа, твая хворая фантазія падае такі ракурс канфлікту?

— Думаю, што заслугоўвае,—у вачах Івана прамільгнуў азартны бляск.

— «Думаю»—расплывіста. А доказы?

— Ёсць доказы. Я ўпэўнены, яны мяне—доказы і факты—чакаюць. Калі здрэйфіў—скажы,—як адсек Іван.

— Та-ак-с... Павязаў ты мяне, Ваня. Толькі Косця Шарамет хоць знешне сам баязлівец, а калі ўжо даў слова... У дошку разаб'юся, а стрымаю. Давай па парадку, давай без панікі. Калі і напраўду ён заслугоўвае кары

# ЦУД — ГЭТА РЭАЛЬНА...

**Гутарка з галоўным мастаком Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Эрнстам ГЕЙДЭБРЭХТАМ**

**— Эрнст Давыдавіч, у ліпені месяцы вы, адзіны савецкі тэатральны мастак, удзельнічалі ў міжнароднай канферэнцыі па праблемах перспектыўных рашэнняў тэатральных будынкаў і архітэктуры сцэны. Было гэта ў Аўстраліі, у Сіднеі. Вашы ўражанні?**

— Мы былі там некалькі дзён. Першае адчуванне — там усё інакшае, нябачанае: прырода, птушкі, сілуэты дрэў, людзі, фарбы. Сідней сам, як ракавіна ці жамчужына, месціцца на берагах заліва. Пабудаваны ў стылі амерыканскай архітэктуры: высокія прызмы дамоў з адпаліраванага каменя ці падфарбаванага шклобетону адлюстроўваюць усё вакол — неба, ваду, сонечныя промні, адзін аднаго. Ад гэтага адчуванне жамчужнасці, гульні святла, блікаў. Малюнак зусім не нашага стагоддзя. Мы ў ім губляемся. Уявіце сабе, як сярод гарадскога шуму, сумятні раптам над галавой праплывае, агінаючы небаскробы, манарэльс (высотны трамвай на адной рэйцы). Па вуліцы ходзяць неверагодна разадзетыя ці проста паўголыя, з прыгожымі сцёгнамі, з прыгожай касметыкай аўстралійскія жанчыны, якія ведаюць сабе цану. Цераз заліў перакінуты неверагодны мост, які, кажуць, увесь час фарбуюць: пакуль дойдуць да канца з аднаго боку, надыходзіць час фарбаваць процілеглы бок. Унізе пад ім праплываюць акіянскія караблі.

Оперны тэатр у Сіднеі нагадвае парусік з надзьмутымі ветразямі. Унутры ж ён нагадвае сабор. Гэта адна з лепшых акустычных залаў. Але сцэна спраектавана зусім маленькай, праўда, яна гранічна насычана рознай тэхнікай. Усякую гістарычную рэч (оперу, балет) аўстралійцы набліжаюць да сучаснасці, іграюць гранічна рэалістычна. На оперы было сумна: усё вельмі проста, усё ў дзеянні можна прадбачыць. Оперы ідуць і на мове арыгінала, толькі зверху над сцэнай бяжыць радок на англійскай мове — кароткі змест таго, што адбываецца.

Архітэктура сцэны і залы сучаснага драматычнага тэатра Аўстраліі праектуецца па адной схеме. Вельмі складана завабліваць гледача ў тэатр. Некаторыя архітэктары, напрыклад, прапаноўвалі сумяшчаць тэатр з магазінам, іншыя расказвалі, што рабілі выстаўку пародзістых коней, каб прыцягнуць увагу да спектакля. Для нас гэта дзіўна. Думаю, блытаць адно з другім, мастацтва з утылітарнымі мэтамі, не варта.

На канферэнцыю сабраліся мастакі з усяго свету. Але нягледзячы на тое, што ўсе мы жывём на розных кантынентах, у зусім розных умовах, мастакі паўсюль у асноўным аднолькавыя, таму праблем з паразуменнем не было.

**— Ведаю, што вы паспяхова выступілі на канферэнцыі ў Сіднеі са сваёй канцэпцыяй развіцця архітэктуры тэатральнага будынка і сцэны, вазілі з сабой шмат слайдаў — работ савецкіх мастакоў. Канечне, я разумею, што многія ідэі ў гэтай галіне пры нашай матэрыяльнай беднасці — толькі мары, і ўсё-такі хацелася б пачуць «вольныя» развагі чалавека, які шмат думае на гэту тэму. Тым больш, што вам удаецца літаральна ствараць цуд на сцэне нашага ДАВТа, і калі хто-небудзь не разумее, што такое сапраўдны тэатр, у чым яго магія і прыцягальнасць, я магу толькі параіць схадзіць на любы ваш спектакль — «Вясна свяшчэнная» ці «Балеро», «Кавалер руж» ці «Рамэа і Джульета»...**

— Дзякуй за камплімент. Ды, між іншым, не ўсё так нерэальна, як вам здаецца. А тое, што сёння выглядае марай, заўтра можа зрабіцца рэальнасцю. У чалавечай культуры ўжо склаліся пэўныя тыпы тэатральнай архітэктуры, якія, мабыць, і не вымагаюць абнаўлення: грэчаскі амфітэатр або японская «дарога кветак» існавалі і будуць існаваць побач з найноўшымі тэатральна-архітэктурнымі ідэямі.

Жанравыя асаблівасці таго або іншага віду тэатра часцей за ўсё дыктуюць і пластычнае асяроддзе, і пэўны тып тэатральнай пляцоўкі...

**— Зразумела: калі ставіцца грэчаская трагедыя, дык лепш яе глядзець на арэне, а сярэдневяковы міракль — у прасторы храма.**

— Больш за тое, сам выгляд тэатра прадугледжвае свае спецыфічныя ўмовы бытавання. Адна з іх у музычным тэатры — жывы аркестр, пасрэднік паміж сцэнай і залай. Цікава, што суадносіны сцэны і глядзельнай залы большасці старых музычных тэатраў паўтараюць форму скрыпкі, суразмернасць яе частак, дзе месца дэкі займае аркестр. Ці трэба размяшчаць, скажам, гледача вакол сцэны або хаваць аркестр, аснашчаючы спевакоў найноўшай узмацняльнай тэхнікай? Можна, канечне. Але, пэўна, і традыцыяналізм у дадзеным выпадку — не горшае. Асабліва, калі мы хочам пачуць чыстае гучанне спевакоў і аркестра без тэхнічных прыстасаванняў. А яно дасягаецца менавіта акустычнай суразмернасцю частак унутранай прасторы тэатра. Балетны спектакль — таксама даволі кансерватыўны від відовішча, які вымагае сваёй формы арганізацыі прасторы. Балет разлічаны на франтальнае ўспрыманне залы. Балетмайстар бачыць спектакль як бы перад рэпетыцыйным люстэркам, глядзельная зала для яго — тое ж люстэрка. Чалавечая пластыка не настолькі выразная, каб магла «глядзецца» з усіх бакоў. Значыць, і балетны спектакль, як і оперны, у нейкай ступені супраціўляецца сваёй прыродай змыванню межаў сцэны і залы.



**— Мы цяпер гаварылі пра традыцыйны тэатральны карабок, аднак зусім іншае — архітэктура новых тэатральных будынкаў. Тут магчымасці фантазіі архітэктара, рэжысёра, мастака куды больш шырокія. Бо сучаснае музычнае мысленне і сучасны драматычны тэатр прадугледжваюць свабоду фантазіі ў архітэктурна-сцэнаграфічнай арганізацыі мастацкай прасторы спектакля і немастацкіх, утылітарных функцый тэатральнага будынка.**

— Сёння і драматургі пішуць іначай, чым 20—30 гадоў назад, і сцэнаграфічная думка прыкметна змянілася. Мастацкае асяроддзе спектакля меней за ўсё выконвае задачы вызначэння месца дзеяння. Высокі ўзровень умоўнасці, метафарызацыя сцэнічнай мовы, імкненне да свабоднай сувязі сцэны і залы вымагаюць іншых форм арганізацыі тэатра. Сучаснай тэатральнай думцы цесна ў сцэнічным карабку, а абавязковы прасторавы падзел сцэны і залы скоўвае фантазію мастака. Магчымасці сучаснага тэатральнага будынка павінны быць такія, каб даць максімальную свабоду для мастака і рэжысёра.

**— Відаць, поўную свабоду ўяўленню дае проста пустая пляцоўка, дзе наогул нічога няма?**

— Так, мы і займаемся тым, што, ствараючы мастацкі вобраз спектакля, нібыта зноў вынаходзім веласіпед. Але тэатральнае мастацтва — не столькі сама па сабе фантазія, колькі матэрыяльнае ўвасабленне вобраза, актыўнае дзеянне. Таму імкненне да поўнай творчай свабоды нязменна павінна абапірацца на такое тэхнічнае аснашчэнне, якое магло б вобраза мастака ператварыць у рэальнасць. Верагодна, сучасная тэатральная свядомасць вымагае не архітэктурнага ўскладнення тэатральнага будынка, а наадварот, руху ў бок першапачатковых, прымітыўных форм тэатральнай пляцоўкі. Але — з патэнцыяльнай магчымасцю стварэння тут жа, на месцы, любога задуманага архітэктурна-жывапіснага асяроддзя. Я маю на ўвазе той ідэальны варыянт тэатра, калі, маючы нейкую пустую прастору, нейкую адну плоскасць, я мог бы ператварыць іх у што заўгодна, выгарадзіць любую дэкарацыю. Дзе можна свабодна перамяшчаць гледача і сцэну, мець некалькі сцэн, ці, наадварот, вярнуцца да тэатра-«скрыпкі», калі ідзе опера Вердзі або Моцарта. І тады гэты «зроблены» традыцыйны тэатр узмоцніць вастрыню глядацкага ўспрымання, бо асяроддзе мне і яму не навязана, а нарадзілася як неабходнасць для дадзенага відовішча.

**— Вы лічыце, такім чынам, што архітэктурна-тэатральная думка як бы вяртаецца да сваіх вытокаў, але не да стылю прымітыву, а да такіх мадэляў, дзе ў згорнутым выглядзе прысутнічае дзейсны патэнцыял усяго вопыту сцэнічнага мастацтва?**

— Мне ўяўляецца ідэальным тэатр як нейкая нейтральная прастора, якая можа мяняць сваю форму па вертыкалі і па гарызанталі. Прычым зыходнай можа быць любая фігура: авал, квадрат альбо крыж, г. зн. падлога, столь, сцены павінны мець магчымасць гранічна трансфармавацца, гранічна рухацца. Гэта разнявольвае мастака і рэжысёра, якія могуць мадэліраваць прастору, змяняючы канцэпцыю ўласна тэатра для кожнага спектакля. Увогуле, я прыхільнік ландшафтнага тэатра (ён у нас, на жаль, не прыжыўся). У ім натуральны рэльеф, прырода робіцца дэкарацыяй і архітэктурай. Мастак у кожным спектаклі — і архітэктар тэатра. Ландшафт можна мысліць не толькі як уключэнне прыроды ў спектакль, але значна шырэй. Уявім, што балет «Спартак» іграецца ў Акропалі ці любы іншы гістарычны твор — у старым замку ці на гарадской плошчы. У такім выпадку ў мастацкае асяроддзе спектакля ўваходзіць не толькі прырода, але гістарычныя, культурныя асацыяцыі той ці іншай гістарычнай мясціны. Стык векавой гісторыі і падзей, якія развіваюцца тут жа, дае незвычайны мастацкі эфект.

**— Між іншым, на Беларусі яшчэ да рэвалюцыі былі спробы тэатральных пастановак у натуральных умовах, потым трывала і надоўга забытыя. Але вось сёлета, пад час свята горада, мінчане з захапленнем і здзіўленнем памкнуліся на ўнутраную плошчу Траецкага прадмесця, адкуль даляталі гукі аркестра і галасы спевакоў. Гледачы, якія апынуліся паблізу (сярод іх была і я), маглі бачыць, як на імправізаванай сцэне — проста на бруксаванцы — акцёры ДАВТа разыгрывалі і спявалі «Дзікае паляванне караля Стаха», оперу У. Солтана. Тут жа размясціўся аркестр, на другім паверсе стылізаванага дамка спяваў хор. На балконах, сценах бліжніх дамоў віднеліся фрагменты вашых дэкарацый: містычны партрэт, нацыянальныя вымпелы, гербы, сцягі. І ў той момант, калі паводле сюжэта павінна з'явіцца «дзікае паляванне», з бакавых вулачак на плошчу прыскакалі сапраўдныя коннікі ў масках — гледачы проста ахнулі. А пасля спектакля народ доўга не разыходзіўся, дзятва, ды і не толькі, спрабавала пакратаць бочкі, кубкі, іншы рэквізіт, залезці на трон. Штосьці было ў гэтым ад самых старажытных форм тэатра, вулічных прадстаўленняў**

# СПОВЕДЗЬ

(Пачатак на стар. 8—9).

Ну, павёў я яе каля Прыпяці. Сам трохі пад газам быў, смелы. Прыціснуў раз-другі, памякчэла. Такія пірагі — і з макам, і з мёдам... Я як жыў?.. Вып'ю — цягне да яе, а так — тыдзень не ўспамінаю. Яна на кватэры жыла. Я шух пад акно, раз, другі пастукаю, яна высунецца, кажа... «Ідзі на старое месца, я даганю». Атрымаем так крадком кожны сваю асалоду, а гаварыць няма пра што, яна саромеецца, а мяне на сон п'янага цягне. Тыдзень, два не прыходжу. Перакінулі яе ў Жыткавічы на чыгуначную станцыю. Я на машыне праз месяцы два — шась у Жыткавічы. Яна кажа: болей не прыязджай, кавалер, кажа, у мяне тут аб'явіўся з сур'ёзнымі намерамі. А мне што ў адказ, маўчу, сэрца маё да яе пустое. Так, кажа, каханне правяраюць, дастаткова, каб незнаёмае імя мужчыны з вуснаў каханай зляцела, а табе ўжо і свет не мілы. Адказваю, няхай так, не буду вам перашкаджаць. Падару, кажа, табе напаследак яшчэ адзін вечар, каб успамінаў. Паехалі ў лясок. Ну, брат, такое выкінула, такое... што ў мяне вочы на лоб палезлі... Зноў я ў Тураве сваім адзін. Аднойчы ў нядзелю падхапіўся бацька, кажа, сынок у грудзях пячэ... занясі мяне да нашай былой кузні — гэта за адрынаю метраў пяцьдзесят. Бяру на плечы, нясу, а што рабіць. Сеў. Пасядзелі на траўцы ля кузні, праводзіў сонца на захад, кажа, нясі, сынок, дахаты, холадна. Мінула два дні, тры... зноў стары, утаропіўшы погляд у адно месца, дурэе... Нясі, сыночак, да кузні, цяперака точна памру. Кажу, ай не дурыся. Суседзі смяяцца будуць. Бачу — слёзы ў вачах. Бяру на плечы, зноў цягну на горку. Сеў з ім побач. Адшчыпнуў травінку, пажаваў, выплюнуў. Сонца выкацілася з-за хмар і схавалася. Заветрыла. Стары пазіраў удалечыню, кажа, сынок, нясі дахаты, не хачу ў такое надвор'е паміраць. Старое, што малое, адзін розум. Занёс назад. Ледзь не ўпалі.

Праз тыдзень ехаў я па нашай вуліцы, думаю, прыпынюся, праверу, як там. Пляменнік мой з дзецьмі ў двары гуляе. А дзе дзед? — пытаюся. Кажа, да кузні пайшоў. У мяне так сэрца і ёкнула. З усіх ног я туды... Сядзіць ён ля сцяны, вочы адкрыты, і твар такі страшны, натаміўся ён, відаць, страшэнна, пакуль дапоўз да кузні.

...Прыехала сястра. Кажа, што рабіць будзем? Трохі яна перабясілася, бацькава смерць яе напалохала. Нішто чалавека так не вучыць, як гора: абухом па галаве раз, другі... усе фарфаронствы моладзі, пустэчу і адсячэ. Засталася яна ў Тураве. Дзеўка-агонь. Пайшла нянечкай у дзіцячы садзік. Маладога інжынера, які працаваў на газаправодзе «Дружба», ну і абкруціла. Распісаліся. Я пачаў есці ў сталоўцы, а сам шукаў зачэпку, каб куды махнуць. У хаце два пакоі на стары лад... якое жыццё. Вось тут я і ўспомніў пра Грышу з Белагрудка. Мы на святы абменьваліся паштоўкамі, сувязь падтрымлівалі... Я яму і напісаў з просьбай пашукаць мне работу... Можна было пачаць адразу адсюль... апошнім часам жыву мінулым, баюся будучыні. Амерыкі мо не адкрываю, можа, кожны тут жыве мінулым. Сястра хоць і паказвала ўсім сваім выглядам, што яна непакоіцца маім ад'ездам, ды я ўсім сэрцам адчуваў, што яна задаволена.

Была глыбокая восень. Часта ў такое надвор'е, калі марудна набліжаецца зіма, сэрцу робіцца абыякава да ўсяго. Ад'язджаў лёгка, як бы ўцякаў ад шэрага, нуднага санлівага дня. У Баранавічах перасеў на Белагрудскі аўтобус, дастаў з чамадана сцізорык, паклаў у кішэню для смеласці быццам. Не быў у гэтых краях ніколі? Асаблівы раённы гарадок: на горках стаіць, як Мазыр наш. Што дзіўна, усе вуліцы ад цэнтральнай плошчы ўніз спускаюцца, як ручайкі пятляюць. Гарадок парку свайго не мае, скверык у цэнтры захудалы ёсць, там алея герояў працы, камень — сведка часоў заснавання, а парку няма. Ну, гэта я агледзеў пасля, а ў першы вечар дзікавата, нялюдна было на ду-

**з іх дэмакратычнымі, нават панібрацкімі адносінамі акцёраў і публікі. Падзея, на мой погляд, адбылася неардынарная. Цікава, што пайшоў на такі эксперымент тэатр, нібыта самы нерухавы і элітарны, кансерватыўны «ад прыроды» — акадэмічны тэатр оперы і балета. Гэта варыянт ландшафтнага тэатра ў вашым разуменні? Цікава, а па чыёй ініцыятыве ўзнік гэты вулічны спектакль?**

— Прадстаўленне адбылося па ініцыятыве галоўнага рэжысёра тэатра В. Цюпы і пастаноўшчыка танцаў М. Дудчанкі. Будзем лічыць гэты эксперымент пробным каменем. Не ўсё атрымалася, як хацелі. Я быў супраць выбранага месца, бо ў Траецкім прадмесці архітэктура не адпавядае таму, што адбываецца ў «Стаху», яна ідзе ўразрэз з музыкай і тэкстам. Робяцца такія рэчы крыху інакш. Таго ж «Стаха» можна іграць у Мірскім замку ці ў Нясвіжы, дзе ўсе дэкарацыі ўжо ёсць: сцены таго часу, возера, равы, лес наўкола, прыродная пляцоўка для ігры. Архітэктура, няхай адносна, павінна адпавядаць музычнаму і літаратурнаму матэрыялу. За некалькі дзён ствараецца добрая рэклама, і людзі збіраюцца да месца спектакля ці больш шырокай культурнай праграмы спецыяльнымі аўтобусамі ці на машынах. Пры прадстаўленні «Стаха» ў Траецкім прадмесці адыграла ролю сама атмасфера народнага гуляння ў дні горада, дух нацыянальнага адраджэння, звязаны з гістарычнымі мясцінамі горада, якія аднаўляюцца. Таму спектакль прыцягнуў увагу.

**— Дзяржаўнаму тэатру оперы і балета БССР давядзецца ў хуткім часе перажыць рэканструкцыю. Які ваш, Эрнст Давыдавіч, погляд на будучае опернa-балетнай сцэны, якімі вы, тэатральны мастак, хацелі б бачыць сцэну, глядзельную залу, майстэрні?**

— Я з вялікай павагай стаўлюся да архітэктара Іосіфа Лангбарда, які спраектаваў цяперашні будынак опернага тэатра. Ён дакладна прадуманы, зручны, кампактны, разлічаны на перспектыву. Але сусветная думка ў галіне архітэктуры тэатральнага будынка, архітэктуры і тэхнічнага абсталявання сцэны пайшла з таго часу далёка наперад. Мы адстаём у гэтых адносінах на некалькі дзесяткаў гадоў. Аднак архітэктурнае вырашэнне І. Лангбарда дапускае такія камбінацыі і ажыццяўленне такой рэканструкцыі, якія сталі б на ўзровень еўрапейскіх тэатраў.

**— Рэканструкцыя пачнецца ў 1991 годзе і прадоўжыцца, трэба думаць, не адзін год...**

— Вядома, цяпер павінны быць закладзены мабільныя, зручныя, не груваскія варыянты трансфармацыі сцэнічнай пляцоўкі, такое размяшчэнне цэхаў, за якое нашы маладыя пераемнікі маглі б сказаць нам дзякуй, як сёння мы з павагай ацэньваем працу Лангбарда. Асноўным сродкам мабільнасці будучых спектакляў павінны, на мой погляд, зрабіцца пад'ёмна-апускныя пляцоўкі, каля трыццаці штук, якія дазваляюць рабіць хуткія і эфектныя змены дэкарацый. Адно з рашэнняў — перасоўныя фуры. Яны могуць выязджаць з бакавых «кішэняў» сцэны з ужо гатовай, устаноўленай дэкарацыяй (рух сустрэчна-гарызантальны). Другая, цэнтральная фура з плоскім колам можа выязджаць з глыбіні сцэны, г. зн. рухацца ў іншым кірунку. Больш за тое, можна зрабіць так, каб фура прыўздымалася і пры неабходнасці на пад'ёмна-апускную пляцоўку магла легчы цудоўная балетная падлога, сумешчаная з планшэтам сцэны. Натуральна, неабходна замяніць адсталую апаратуру. Будынак дазваляе адкрыць у сценах тэатра малую эксперыментальную сцэну для камерных спектакляў, для Клуба сяброў оперы, які цяпер збірае аматараў у сценах Дома работнікаў мастацтваў. Для гэтага жывапісную залу трэба размясціць над глядзельнай, а па перыметры яе сабраць усе вытворчыя цэхі. Менавіта цяпер распрацоўваецца праект рэканструкцыі ДАВТа, і трэба зрабіць усё магчымае для таго, каб было зручна і для балета, і для оперы, і для аркестра, і для мастацка-пастановачнай часткі тэатра.

**— Эрнст Давыдавіч, а як вы ставіцеся да папулярнай сёння ідэі разборных перасоўных тэатраў — вядома, у адносінах не да нашага музычнага тэатра, а да будучага развіцця тэатральнай архітэктуры?**

— Сучасны «дзейсны» дэкарацыйны стыль мяркуе ўздзеянне на псіхіку чалавека рознымі спосабамі. Мастак у тэатры заўсёды больш свабодны, чым архітэктар. Архітэктар можа зрабіць цудоўны тэатральны будынак, але ён кансерватыўны ўжо тым, што існуе, дадзены раз і назаўсёды. А мастаку ў ім сёння патрэбна авальная сцэна, а заўтра—не. Яму даводзіцца пастаянна ўлічваць пэўную дадзенасць. Архітэктура на сцэне ў ідэале павінна быць нейтральнай і падатлівай, актыўныя формы мастак знаходзіць сам, і архітэктар яму не перашкаджае. Мастак і рэжысёр маглі б ствараць тэатр з нейкіх модуляў, блокаў, якія ў залежнасці ад асяроддзя знешняга (прыроды) і ўнутранага (драматургічны матэрыял) надзвычай змяняюцца. Магчыма, разборныя, перасоўныя тэатры—адзін са шляхоў у гэтым напрамку.

**— Мне застаецца сказаць дзякуй за цікавую гутарку, пажадаць творчых дасягненняў вам, а нам — не раз яшчэ перажыць пачуццё здзіўлення і захаплення на вашых спектаклях.**

**Вяла гутарку**
Таццяна **РАТАБЫЛЬСКАЯ.**

## З паэтычнай пошты

**Міхась СКОБЛА**

### Балада-рэквіем. 1864

Пасткі парасстаўлены
па шляхах Беларусі.
З Вільні на Мастаўляны
шлях не закрыты скрусе.

Карным каваным ботам
грукае ноч у дзверы.
Роспач.
Трывога.
— Хто там?...
І — пад страху сякеры.

З цемры, як здань, паўстане
родны край занядбаны.
На хаўтурах паўстання
грукаюць барабаны...

Помняць людскія мукі
шыбеніцы на пляцах.
Што ж, Мураўёву ў рукі
ведайце як трапляцца!

Быццам у нечым вінны,
вецер, як акружэнец,
ноччу блукаў па Вільні!..
— Прозвішча?
— Вітажэнец!..

...Над анямелым пляцам
шэраг шчыльнеў канвою.
Ды не схаваць паўстанца
сукням чужога крою,

не засланіць прыкладам
родных да болю рысак...
Іскрай «Мужыцкай праўды»
жыцьме народны прысак.

### Жаўрукі Паўлюка Багрыма

...а песня згарэла ў горле,
І попелам жыцьме дух,
пакуль у засмяглым горне
жар-птушкай агонь не стух.

Ад болю, што ўпіўся ў грудзі,
замовы няма святой.
— Я выкую песню, людзі,
заміж перарванай
той!

Ці немач, ці жаль агорне,
ці роспач, як чорны крук...
А песня грымела ў горне,
як рэкруцкі
строй
аб брук.

А песня ішла ў абоймы
кавадла, агню й вады,
адным жывучы — каб долі...
каб вольнай...
каб назаўжды...

Ды ў светлай святарні цесна.
Замест прахалодных рос
сцякае на вусны песні
расплаўлены
ліпкі
воск.

І плача яна, і стогне,
І крыльцы ёй зводзіць боль...
...Навек да касцельнай столі
прыкутая
жырандоль.

**Фелікс БАТОРЫН**

●

Фіміям увесь дарэшты скураны,
Песнапенняў рэха замаўкае.
На шматкі вятрамі развіхураны,
Саладжава-мройны дым знікае.

Саступае пыха месца розуму,
Блякнуць міфы, трацяць бляск
сусальны.
Мы вачамі яснымі, цвярозымі
На сябе глядзім выпрабавальна.

### Кумір

Нават тыя, што верылі шчыра
У справядлівасць яго барацьбы,
Аб чыгунныя боты куміра
Разбівалі сабе ілбы.

Ну, а хто хоць на волас
схібіў,
У вачах у каго недавер,—
Ён не вораг народа хіба,
Не каварны драпежны звер?

Так, узвышаны нават над богам,
Шлях сабе пракладаў правадыр.
І рыпеў пад чыгунным ботам
Курапатаў скрываўлены жвір.

О, сібірскія снежныя шыры,
О, суровыя Салаўкі...
Не стварайце сабе куміраў,
Землякі.

●

Хто ўбаку з пагардаю крывіцца,
Хто на чорным рынку шчыруе.
Дзед слюнявы з адвіслаю
сківіцай
Шостай часткай зямлі кіруе...

Ды, нарэшце, становішча
зменена.
Нараджае надзея веру.
Мы вяртаемся зноў да Леніна,
На той шлях, што вядзе
наперад.

А ісці нам не дні, не месяцы:
Доўгі шлях наш — як бачыць
вока.
Пад нагамі багнішча месіцца.
Як жа збочылі мы далёка...

●

Вяртаюцца дзяды, бацькі,
браты
Імёнамі і памяццю святою —
І тыя, што без вестак з поля
бою
Сышлі навек у царства нематы,
І тыя, што загнаны ў дол маной,
Бо чорнай здрадзе сэрца не
адкрылі,
Што далягляд нам сёння
асвятлілі
Сваёй высокай, праведнай віной.



Фотаэцюд А. ГЛІНСКАГА.

шы. Пад'язджалі ў цемры... хаты без агеньчыка, няўжо, думаю, людзі так рана спаць кладуцца. Раптам фары высвецілі высокі чырвоны касцёл, на ім цені ад крыжоў—ні людзей, ні машын насустрач. Дождж са снегам у шкло лепіць, частка людзей высадзілася ля Цагельнага, нас утрох ехала да аўтастанцыі. Упершыню пашкадаваў, што паехаў сюды. А тут яшчэ, як дурань няпрошаны, тырчу на бязлюднай станцыі. Грышу свайго чакаю... Няма. Хаджу вакол, змерз, як сабака. Думаю, пайду ў буфет, пакуль яшчэ працуе, вермута шклянку прапушчу для сугрэву. Заходжу... Паверыш, нідзе не пападаўся мне такі брудны і абшарпаны буфет: сталы падрапаны, ножкі ў іх як бы пагрызены бабрамі, хвасты селядцоў, незасмажаныя сінія катлеты на сталах, гара смецця ў кутку ля паўнюткага адходамі вядра. Буфетчыца боўтае ў вядры з вадой бакалы і, не выціраючы іх, налівае з бочкі піва... Ручнік ля вядра з жоўтай вадой ляжыць, паверыш, у мяне ў гаражы—чысцейшы. Абажур на чвэрць абпалены, у ім маленькая лямпачка. На сценах невядома чаго болей — аблезлай зялёнай фарбы ці шэра-зялёнай, як скура жабы, цвілі. І пах... дух... ледзь не зблажыла. Ахапіла жаданне ўзяць білет і ўцякаць. У сонных, стомленых, абыякавых і недаверлівых вачах буфетчыцы я прачытаў як бы прадказанне майго няшчасця тут у будучым. Не выключана, што я б і з'ехаў. Раптам з кутка ад століка, за якім сядзела чацвёра мужыкоў (адзін быў у зімовай шапцы), мяне нехта аклікнуў: «Вано!» Ё маё, а я сяджу, яго гадзіну чакаю.

Абняліся мы, расцалаваліся. Падсеў да іх. Грыша ўзяў яшчэ дзве бутэлькі «Яблычнага». Сядзелі доўга, пакуль буфетчыца не выпхнула ў плечы. Павёў ён мяне да сябе на Замкавую вуліцу. Адно слова, што вуліца. На гарышчы замка даўно няма, адна сцяна стаіць. Тыдзень яшчэ пілі віно, пакуль не выйшлі мае грошы. Грыша, як я заўважыў, ведаў увесь гарадок, і мяне з усімі знаёміў: і з цырульнікам, і прадаўцамі, і шафёрамі, і будаўнікамі, і настаўнікамі, адно толькі з міліцыянерамі не знаёміў, абыходзіў іх бокам. Даведаўся (ад маці, здаецца, ці сястры Паліны), што ён трэці месяц нідзе не робіць. Забрала міліцыя ў яго вадзіцельскія правы. Яму абяцалі, казаў і мне, што за грошы адзін міліцыянер абяцаў выкупіць іх. Навучаны горам бацькі, я занепакоіўся, што ж рабіць? Павёў яго ў лазню, ён ачуняў, прыняў чалавечы выгляд—я яго амаль сілком не выпускаў на вуліцу тры дні. Што высветлілася: жонка разышлася з ім, забрала гадавалае дзіця і паехала на радзіму ў Ашмяны. Маці хату падзяліла на дзве палавіны з асобным уваходам і кухняй. Чулая маці Грышы здала мне ў наём пакойчык з кухняй за пятнаццаць рублёў у месяц. Пайшлі ў цэнтр, нарэшце, шукаць мне работу. «У нашым горадзе, хіхікаў Грыша, тры тысячы католікаў, тры тысячы праваслаўных і тры тысячы атэістаў. Быць таго не далжно, каб хто-небудзь з іх не памог табе». Мяне здзівіла мноства сімпатычных дзяўчат, якія былі хораша апрануты. У аддзелах кадраў цагельнага, маласырзавода, бальніцы, аўтабазы чулі — месца вадзіцеля няма. Тады незлаблівы і прастадушны Грыша аддаў мне сваю пасаду, якую землякі трымалі за ім. Так я апынуўся каля культуры, стаў вадзіцелем старэнькага зялёнага аўтаклуба. Давалі шэсцьдзесят рублёў і трыццаць даплачвалі за электрыка... З голаду не пухнуць.

Першае маё знаёмства з начальнікам міліцыі Авяр'янам Паўлавічам Ліхадзеем адбылося, калі прапісваўся ў Белагрудку. Перад тым, як атрымаць пашпарт са штампам, мяне паказалі начальніку. Падаўся ён мне чалавекам не строгім, але асцярожным. Смуглявы твар яго ў час гаворкі не зменьваўся. Такое пачуццё было, быццам словы ім завучаны даўно і дасылаюцца слухачу без пачуццяў, акцэнтаў і зацікаўленасці. У яго былі густыя валасы, расчэсаныя на прабор. Голас мяккі... Прыемны барытон, як у Магамаева. Пры гаворцы глядзеў проста табе ў вочы, бы сачыў спадцішка за тваімі паводзінамі. Мне дык непрыемна было. Пытаўся: адкуль я прыехаў, да каго, на якую работу ўладкаваўся, цікавіўся, дзе і калі пазнаёміўся з Грышам. Без хвалявання я на ўсё адказваў. У час гаворкі круціў у руках кішэнны гадзіннік. Пазванілі. Добрых мінут дваццаць з некім размаўляў. Я чакаў. На развітанне сказаў: «Далей трымайся ад Грышы. Яго песня спета».

## *Віншуем!*



**26 лістапада споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Івана Скарынкіна. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнямі добрага здароўя, поспехаў у творчасці.**



**15 лістапада споўнілася 75 гадоў пісьменніку Анатолю Іванову. З гэтай нагоды праўленне СП Беларусі накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнямі добрага здароўя, новых творчых поспехаў.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтых віншаванняў і таксама зычаць юбілярам усяго самага добрага ў жыцці і літаратуры.**

**У Мінску з 1 па 10 снежня адбудзецца Рэспубліканскі фестываль тэатраў-студый «Студыйныя каляды», у якім удзел прымуць 15 калектываў з Мінска і Бабруйска, Мазыра і Слоніма, запрошаны і тэатры-студыі з Ленінграда і Кіева. Гледачы сустрэнуцца на фестывалі з тэатрам-студыяй «Верасень» з Мазыра і з яго ветэранам — Андрэем Лазароўскім, якому нядаўна споўнілася 80 гадоў...**

# ЖЫЦЬ ЯГО ГЕРОЯМ

Маленькім хлопчыкам, дакладней, з сямі год Андрэйка Лазароўскі быў батраком у мясцовага пана, пасвіў каровы. Маці працавала на запалкавай фабрыцы «Маланка» ў Мазыры. З ранняга дзяцінства хлапчукназіраў хараство і багацце прыроды, і яна, у сваю чаргу, надзяліла яго тонкім густам на ўсё жыццё... Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пятнаццацігадовы Андрэй ідзе на запалкавую фабрыку паліроўшчыкам, тут ён паступае ў фабрычны драматычны гурток, кіраўніком якога быў Уладзімір Дзеравянка.

Невялічкая зала для заняткаў і выступленняў была прыстасавана ў адным з цэхаў. У гуртку займалася каля дваццаці чалавек. П'есы і сцэнкі драматургаў ігралі на рускай мове, нешта прыдумлялі і самі. У час спектакляў замест дэкарацый выкарыстоўваліся натуральныя копы сена, дрэвы, кусты, агароджа і г. д.

У 1938 годзе адкрыўся Палескі абласны драматычны тэатр, аснову трупы якога склаў расфарміраваны вандроўны тэатр У. Галубка. З мясцовай самадзейнасці запрасілі на прафесійную сцэну А. Лазароўскага, С. Лазароўскую, Л. Гушляк, А. Шаўчэнку, А. Міндліна.

Значнае месца ў даваеннай творчасці тэатра займае і артыст Андрэй Лазароўскі: Чыр з «Любові Яравой» К. Транёва, Рэгент з «Пагібелі воўка» Э. Самуйлёнка, кум з «Наймічкі» паводле Т. Шаўчэнкі, Маргун з «Партызан» і Туляга з «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы...

Перад пачаткам вайны Палескі абласны драматычны тэатр імя Янкі Купалы, дзе працаваў А. Лазароўскі, гастралюе ў Бранску. Калектыў тэатра звярнуўся ў мясцовы ваенкамат, каб усіх адправілі на фронт, але паколькі Мазыр не быў заняты ворагам, бранскі ваенком не меў права прызваць у армію, і тэатр паехаў дамоў, а дэкарацыі, касцюмы і рэквізіт засталіся ў Клінцах. У родным горадзе, адразу на другі дзень, ваенком Мазыра адправіў артыстаў пешшу ў Бранск для фарміравання. Калі прыйшлі ў Лоеў, горад бамбілі варожыя самалёты. Затым атрымалі вестку, што ўсе склады з абмундзіраваннем у раёне Бранска разбомблены, і ўсе рушылі ў бок Арла. Там Андрэя Лазароўскага прызначылі камандзірам аддзялення 45-га запаснога стралковага палка, які выконваў ахову тэрыторыі горада. У адну з бамбёжак Лазароўскі атрымаў раненне і быў адпраўлены ў ваенны шпіталь. Калі гітлераўцы падступілі да горада, шпіталь эвакуіравалі ў Цэнск, потым Тулу, Каўроў, а адтуль аж пад Свярдлоўск.

Пасля выпіскі салдат трапіў у Яланскія лагеры, дзе фарміраваліся палкі для адпраўкі на фронт. Там для абслугоўвання часцей арганізаваўся ваенны ансамбль, у які залічылі і Лазароўскага.

У 1942 годзе ансамбль адправілі на фронт у складзе 3-га Сталінградскага механізаванага танкавага корпуса. Артысты займаліся разведкай у тыле ворага, давалі канцэрты. У 1943 годзе корпус здзейсніў прарыў паміж Сумамі і Ахтыркай. Пасля гэтых жорсткіх баёў яго перакінулі пад Барысаў для ўдзелу ў аперацыі «Баграціён». Затым корпус перакінулі ў горад Хайлар, што ў Маньчжурыі. Там салдат Лазароўскі закончыў вайну і вярнуўся з перамогай дамоў...

У 1949 годзе ў Мазыры адраджаецца драматычны калектыў, ініцыятарамі якога былі А. Лазароўскі, В. Казлоўская, Н. Зальцман...



Сцэна са спектакля «Партызаны» К. Крапівы. Дзед Бадыль — А. Лазароўскі; Батура — В. Тамашоў.

Сцэнкі, інтэрмедыі, п'есы ў адной дзеі — вось што рабіў маленькі калектыў, з якога пакрысе вырас адзін з найбольш цікавых тэатраў-студый рэспублікі (з 1960 года ён носіць званне народнага).

У перыяд з 1950—1988 г г. А. Лазароўскім сыграна больш чым пяцьдзесят роляў: Чмых з «ЛявонІхі на арбіце» і Цярэшка Калабок з «Трыбунала» А. Макаёнка, Глушак з «Людзей на балоце» І. Мележа, Пустарэвіч з «Паўлінкі» Я. Купалы, дзед Бадыль і Маргун з «Партызан» К. Крапівы, Якаў Лятун з «Люцікаў-кветачак» Г. Марчука і іншыя.

Як расказаць пра артыста словамі? Яго трэба бачыць — гэта жывы прыклад адданасці справе для маладога папаўнення тэатра.

**В. МІГАЙ,**
**рэжысёр тэатра-студыі «Верасень».**
г. Мазыр.

## *Думка чытача*

# АЎТАРЫТЭТ ЦІ АЎТАРЫТАРНАСЦЬ?

НАШЫ сродкі масавай інфармацыі былі, здаецца, аднадушныя ў ацэнцы з'езда настаўнікаў, назваўшы яго рэктарскім. Меўся на ўвазе, вядома, не толькі персанальны склад удзельнікаў, а і яго дух, танальнасць, характар дыскусій. Не бяруся сцвярджаць, у якой меры гэта ацэнка адлюстроўвала настрой настаўніцкага корпуса. Што тычыцца работнікаў вышэйшай школы, то тут магу сказаць зусім дакладна: іх думка супала з думкай журналістаў.

І вось перад намі новы дакумент — «Временное положение о высшем учебном заведении СССР», апублікаванае ў «Учительской газете» ў жніўні гэтага года. Я не буду рабіць тут яго падрабязны аналіз, спынюся толькі на адным пытанні — кіраўніцтва ВНУ. У якой меры Палажэнне адпавядае ўзятаму партыяй курсу на пашырэнне правоў працоўных калектываў, самакіраванне і дэмакратыю?

Згодна Палажэнню, «вышэйшым органам навучальнай установы з'яўляецца Савет ВНУ, які ажыццяўляе функцыі працоўнага калектыву». Здавалася б, зусім дэмакратычна: менавіта Савет ВНУ правамоцны вырашаць усе без выключэння пытанні ўнутранага жыцця ВНУ. Ажно — не! Абвясціўшы гэтую дэмакратычную па форме дэкларацыю, Палажэнне далей, па сутнасці, зводзіць яе на нуль. Бо выяўляецца, што фактычна ў задачу Савета ўваходзіць толькі разгляд «асноўных пытанняў эканамічнага і сацыяльнага развіцця вышэйшай навучальнай установы». Што датычыць усіх іншых, ажно да вызначэння колькаснага складу Савета ВНУ, то яны цалкам перададзены ў распараджэнне Вучонага савета. Іншымі словамі, з кампетэнцыі Савета ВНУ забрана ўсё тое, што якраз і складае асноўны змест работы ВНУ.

Дык што ж тут кепскага, спытае недасведчаны ў бюракратычных гульнях чытач? Савет жа ВНУ не можа займацца ўсімі пытаннямі вучэбна-метадычнай і навуковай работы. І, відавочна, тут неабходны нейкі больш вузкі па сваім колькасным складзе, з найбольш аўтарытэтных і кваліфікаваных выкладчыкаў, а галоўнае — больш аператыўны орган. Менавіта Вучоны савет. Яно то так. Усё пытанне ў тым, які статус самога Вучонага савета. Артыкул 35 Палажэння гаворыць, што Вучоны савет арганізуецца пры рэктары і пад яго старшынствам, а яго рашэнні маюць сілу толькі пасля зацвярджэння рэктарам. Карацей кажучы, Вучоны савет — гэта штосьці накшталт Дзівана пры турэцкім султане, ніякімі рэальнымі правамі ён не валодае і цалкам падпарадкаваны рэктару. Фарміруецца Вучоны савет наступным чынам: 50 працэнтаў яго складу выбіраецца выкладчыкамі, супрацоўнікамі і студэнтамі, астатняя палова прызначаецца загадам рэктара. Ці не праўда, вельмі зручны Вучоны савет? Палова яго галасоў рэктару ў любым выпадку забяспечана.

Пры такой сістэме і выбары рэктара ператвараюцца ў пустую фармальнасць, у фікцыю. Хоць бы таму, што 50 працэнтаў складу Савета ВНУ, які, паводле Палажэння, выбірае рэктара, складае Вучоны савет, г. зн. той самы орган, палова якога прызначаецца рэктарам. Дзейнічае, як няцяжка бачыць, прынцып, які шырока практыкаваўся і практыкуецца дагэтуль: ты — мне, я — табе, я цябе прызначаю, ты мяне выбіраеш. Ясна, як божы дзень, што пры такой «дэмакратыі» пасаду рэктара можна зрабіць не толькі пажыццёвай, але пры вялікім жаданні нават перадаваць па спадчыне.

Як такая сістэма функцыяніруе на практыцы, я меў магчымасць пераканацца сёлетняй вясной у час справаздачы рэктара нашага інстытута на так званым «пашыраным пасяджэнні Вучонага савета» (што гэта за «самадзейнае аб'яднанне», хто і па якім прынцыпе яго сфарміраваў — невядома, у структуры ВНУ яно, ва ўсякім выпадку, не прадугледжана). Слухаючы хвалу ў адрас рэктара, якая гучала ў выступленнях прамоўцаў, я адчуваў неадольнае жаданне ўстаць і прапанаваць: давайце, дарагія калегі, накіруем у адрас ЦК КПСС і асабіста таварыша М. С. Гарбачова прывітальнае пасланне з паведамленнем аб тым, што Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў перабудову закончыў датэрмінова. А, між іншым, на пасяджэнні прысутнічалі прадстаўнікі ЦК КПБ і Міністэрства народнай адукацыі БССР, якім такая працэдура, мяркуючы па ўсім, прыйшлася па душы.

Кожны, хто знаёмы з работай ВНУ, ведае, што асноўная яго «ячэйка», якая вызначае ўзровень усёй работы, — кафедра. Разам з тым, месца кафедры ў структуры ВНУ, яе правы і абавязкі ў Палажэнні ніяк не асветлены. Ствараецца ўражанне, што аўтараў яго не столькі турбаваў лёс тых, хто працуе, колькі тых, хто кіруе.

Зусім незразумела, чаму прадастаўляючы студэнтам права свабоднага наведвання лекцый (гэта, побач з прадастаўленым ім правам ставіць пытанне аб замене выкладчыкаў, якія не забяспечваюць якаснае правядзенне заняткаў, мабыць, адна з нямногіх светлых плям разглядаемага дакумента), Палажэнне пазбаўляе гэтага права студэнтаў першых курсаў. Альбо чаму студэнты маюць права ўдзельнічаць у вырашэнні пытанняў дзейнасці ВНУ, студэнцкага жыцця толькі праз свае грамадскія арганізацыі? Ну а што, калі яны збяруцца групай, курсам, факультэтам і прымуць рашэнне па пытанні, якое тычыцца іх студэнцкага жыцця ці дзейнасці ВНУ? Не «положено»? Самадзейнасць?

Асабіста я лічу, што гэтае Палажэнне не адпавядае патрабаванням дэмакратызацыі работы вышэйшай школы. Там шмат агульных мясцін. Затое ў тым, што сапраўды датычыць рэальных праблем вышэйшай школы, Палажэнне неканкрэтнае, непаслядоўнае, неканцэптуальнае, эклектычнае, арыентавана на сумяшчэнне несумяшчальнага. У ім вельмі моцны дух той адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы, якую мы сёння дэманціруем на ўсіх узроўнях грамадскага і дзяржаўнага жыцця.

Савет ВНУ павінен не на словах, а на справе, не фармальна, а фактычна стаць вышэйшым органам кіравання ВНУ. Для гэтага неабходна перш за ўсё, каб персанальны яго склад цалкам фарміраваўся на выбарчых і альтэрнатыўных пачатках, шляхам тайнага галасавання. Усялякае прызначэнства, членства ў залежнасці ад займаемай пасады (тая ж наменклатура) павінны быць безагаворачна выключаны. Савет ВНУ павінен быць надзелены правам не проста заслухоўваць штогод справаздачу рэктара, як гэта прадугледжана гэтым Палажэннем, але пры неабходнасці і перавыбіраць яго, у тым ліку і датэрмінова. У Палажэнні павінна быць дакладнае вызначэнне, што рэктар, дэканы факультэтаў выбіраюцца толькі на альтэрнатыўнай аснове.

Вучоны савет павінен фарміравацца не пры рэктары. Ён павінен выбірацца Саветам ВНУ і ў сваёй рабоце быць падсправаздачным толькі яму. У выпадку рознагалосся паміж Вучоным саветам і рэктарам пытанне перадаецца на Савет ВНУ. Рашэнне Савета ВНУ ў рамках яго кампетэнцыі, г. зн. тых правоў, якія прадстаўлены ВНУ, павінна быць канчатковым і можа быць аспрэчана толькі ў судовым парадку.

Ці не зніжае, аднак, гэта правы рэктара? Калі мець на ўвазе існуючую сістэму, то так, зніжае. Калі ж зыходзіць з інтарэсаў справы і сутнасці дэмакратычных прынцыпаў кіравання, то не, ніколькі. У рамках сваіх паўнамоцтваў, г. зн. як асоба выканаўчая і распарадчая, рэктар павінен валодаць у ВНУ усёй паўнатой улады. Але гэтая ўлада павінна грунтавацца не на аўтарытарных, а на аўтарытэтных пачатках.

**В. АКУЛАЎ,**
**заг. кафедры філасофіі Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моў, доктар філасофскіх навук, прафесар.**

# Беларускае войска: за і супраць

(Пачатак на стар. 13).

аднаго з военачальнікаў Заходняга фронту Крылова ад 28 лютага гаворыцца, што ў Віцебску мясцовыя нацыянальныя часці з радай старшынь разагналай думы ўзялі на сябе абарону парадку ў горадзе. У Мінску хутка аднаўляе дзейнасць Цэнтральная вайсковая рада. Стварaецца беларуская камендатура на чале з Езавітавым. 19—21 лютага перад прыходам немцаў яна кантралявала паўночна-заходнюю палову горада, польскія легіянеры — паўднёва-ўсходнюю.

Адсутнасць незалежнай рэспублікі, у т. л. нацыянальнага войска, відавочна, не спрыяла нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, бачанню сябе як цэльнага народа-патрыёта. Абарона Бацькаўшчыны ў такіх умовах станавілася даволі складанай задачай. Таму і па Брэсцкім дагаворы з Германіяй інтарэсы Беларусі былі праігнараваны, а яе тэрыторыя стала фактычна разменным грошам ва ўлашчванні драпежнага кайзера цэнтральнай Савецкай уладай. Гісторыя ледзь не паўтарылася ў 1942 годзе, калі Сталін за кошт тэрыторый Беларусі і Украіны хацеў дамовіцца з Гітлерам аб спыненні ваенных дзеянняў («Огонёк», 1989, № 33). Шматпакутнай Беларусі было, як гаворыцца, не прывыкаць.

25 сакавіка 1918 года ў Мінску прадстаўнікамі нацыянальна-дэмакратычных арганізацый абвяшчаецца незалежная Беларуская народная рэспубліка (БНР). У супярэчлівай дзейнасці Рады БНР было аднак шмат пазітыўных праяў. Так, яна адмовіла агентам Дзянікіна наладзіць бюро па вярбоўцы самаахвотнікаў у белагвардзейскую Паўднёвую армію. Некаторыя «навукоўцы» і зараз мусоляць «вернападданніцкую» тэлеграму Рады БНР Вільгельму II, адмыслова забываючыся аб канкрэтнай гістарычнай абумоўленасці і неабходнасці калі-нікалі палітычных кампрамісаў (хіба ўмовы Брэсцкага міру менш зневажальныя?). Вядома ж, нарэшце, і іншае «бэнээраўскае» — у адрас Берлінскага Саўдэпа — вітанне германскай рэвалюцыі з выказваннем надзеі, што «вольны германскі народ дапаможа і вольнаму беларускаму народу зберагчы сваю волю і незалежнасць».

Гарантыя волі — свае нацыянальнае войска, але ў абставінах акупацыі Радзе БНР так і не ўдаецца ўтварыць яго. Па адыходзе немцаў з Беларусі Рада вядзе перамовы з палякамі аб сумесных узброеных сілах (узначаліць іх меркавалася ад Беларусі генералу Кандратовічу, ад Польшчы — генералу Вэйтку). Не паразумеўшыся, Кандратовіч са сваім штабам адбывае ў Вільню, дзе часова ўваходзіць у склад Літоўскай тарыбы віцэ-міністрам краёвай абароны. Трэба сказаць, што і Літва, і Польшча, дамогшыся буржуазнай незалежнасці, мелі свае прыватныя інтарэсы ў памежнай Беларусі, найперш тэрытарыяльныя. Таму невыпадкова пачынае фарміравацца літоўска-беларуская дывізія польскай арміі, а на Гродзеншчыне (тады адносілася да Літвы) узнікаюць павятовыя і валасныя беларускія рады і міліцыя. Апекаваннем Міністэрства беларускіх спраў Літвы ў Гродне з'яўляецца I Беларускі полк. Калі Гродна захапілі палякі, полк разброілі. (Частка афіцэраў была кінута ў турму, адзін эскадрон прабіўся ў Коўна).

Пад час белапольскай акупацыі некаторыя партыі (БХД, Беларуская народная партыя, Саюз беларускіх землеўладальнікаў) узялі курс на супрацоўніцтва з польскім урадам, астатнія (БПС-Р, БПС-Ф) разгарнулі барацьбу.

Улетку 1919 года праблемы беларускай дзяржаўнасці і войска абмяркоўвае з Ю. Пілсудскім Беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны. А 22 кастрычніка 1919 г. Пілсудскі выдае дэкрэт, які дазволіў фарміраваць беларускае войска і зацвердзіў Беларускую вайсковую камісію. Галоўнакамандуючым беларускай арміі прызначаецца афіцэр Канападскі. Аднак, паводле даследчыка М. Сташкевіча, удалося навербаваць толькі 485 чалавек.

За «аўтаномную» Беларусь пад польскім пратэктаратам выступаў Беларускі палітычны камітэт у Варшаве (старшыня П. Аляскюк). Пад яго ўплывам знаходзілася арганізацыя «Зялёны дуб». Вайсковыя атрады «Зялёнага дуба», якімі камандаваў атаман «Дзяркач» (В. Адамовіч), пры падтрымцы палякаў спрабавалі стварыць буферную беларускую дзяржаву ў Слуцкім і іншых паветах («Слуцкае паўстанне»), выкарыстоўваючы незадаволенасць сялян «продразвёрсткай». У лістападзе 1920 г. П. Аляксюк і В. Адамовіч прапанавалі Булак-Балаховічу ўзначаліць беларускую «дзяржаву». Той пагадзіўся і абвясціў Беларускую народную рэспубліку на Палессі, захопленым яго белагвардзейскім войскам. Свайго брата Балаховіч павысіў у чыне з палкоўніка да генерала і прызначыў камандуючым «беларускай арміяй», якая складалася, у асноўным, з атрадаў «Зялёнага дуба». Жорсткасць «зялёнадубцаў» межавала ўжо з бандытызмам.

Паслядоўна выступала за *змаганне з любымі акупантамі* партыя беларускіх эсэраў. Пад яе кіраўніцтвам дзейнічалі «сялянскія дружыны», аб'яднаныя ў «Сувязь беларускага працоўнага сялянства». Да восені 1920 года беларускія эсэры наогул выходзяць на першы план у нацыянальна-дэмакратычным руху. У Савецкай Беларусі яны — адзіная афіцыйна дазволеная апазіцыйная партыя. БПС-Р патрабуе незалежнай Беларусі ў этнаграфічных межах, вываду Чырвонай Арміі з яе тэрыторыі, прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў на савецка-польскіх перамовах у Рызе. Мэтанакіравана адстойваюць эсэры ідэю тэрытарыяльнай беларускай арміі — у праграме партыі (сакавік 1920 г.), на перамовах аднаго са сваіх лідэраў П. Бадуновай з ЦК РКП(б) (красавік 1920 г.), на старонках газеты «Змаганне».

Багата беларусаў, у прыватнасці, кадравых афіцэраў і салдат, віхуры вайны занеслі на поўдзень Расіі. У 1918 г. у Адэсе арганізуецца Беларускі каравульны батальён, які задумваўся як школа камандных кадраў для будучай беларускай арміі. «Беларускаму нацыянальнаму цэнтру» ў Адэсе ўдалося скамплектаваць адну беларускую дывізію (да тысячы вайскоўцаў). Хоць у лісце цэнтра да французскага генерала Бертэле мэта Беларускай арміі вызначалася як «барацьба з бальшавікамі», усё ж меліся на ўвазе найперш нацыянальныя, а не класавыя варункі такой змогі. Бо калі беларускія рэкруты пераканаліся, што на Бацькаўшчыну не прабіцца, то і дывізія распалася.

Па розных прычынах беспаспяхова ішла вярбоўка за мяжой. Генерал Кандратовіч вёў яе ў Францыі. А ў Германіі, дзе па некаторых звестках знаходзілася да 100 тыс. беларусаў, распаўсюджвалася «Памятка беларусам-палонным» (1919 г.). У ёй ад імя БНР прапагандавалася ідэя незалежнай Беларусі.

**Справай нацыянальнай кансалідацыі шматтысячнай грамады бежанцаў-беларусаў у Савецкай Расіі кіраваў Белнацком. 27 лютага 1918 года ваенны аддзел Белнацкома прымае заклік, у якім беларусы-вайскоўцы з-за «тэхнічнай немагчымасці прыступіць да фармавання нацыянальнай сацыялістычнай дружыны» зазываліся ў шэрагі агульнай Чырвонай Арміі. Як бачна, да арганізацыі асобных беларускіх вайсковых атрадаў справа яшчэ не даходзіць. Толькі 13 кастрычніка 1918 г. камісар Балтыйскага флоту І. Фляроўскі звяртаецца ў Народны камісарыят па марскіх справах: «Мабілізаваныя маракі-беларусы ўзбудзілі хадайніцтва аб адпраўцы іх на фронт акупаваных мясцовасцей Беларусі... Прашу паведаміць, ці дапусцімы прынцыпова такія фарміраванні і ў выпадку іх дапушчэння, каму перадаць сфармаваны атрад беларусаў-маракоў?» У снежні-лютым 1918 г. неаднаразова звяртаецца да кіраўніцтва Петраградскай ваеннай акругі беларуская секцыя пры Петраградскім камітэце РКП(б). Яна хадайнічае аб фарміраванні і адпраўцы на Беларусь атрада беларусаў-маракоў, Беларускага рэвалюцыйнага палка імя т. Леніна, Гродзенскага пяхотнага батальёна, Беларускага камуністычнага атрада.**

ПЕРШАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ беларускіх секцый РКП(б) 22 снежня 1918 г. прымае шэраг рэзалюцый, у т. л. аб арганізацыі беларускіх палкоў Чырвонай Арміі, «адказнай задачай якіх будзе абарона Беларусі ў бліжэйшай будучыні». Канферэнцыя пастанавіла ўвайсці на месцах у *кантакт з ваеннымі савецкімі* ўладамі, прыступіць да вярбоўкі чырвонаармейцаў у беларускія чырвоныя палкі, адправіць сфарміраваны ў Петраградзе самаахвотны атрад беларусаў-камуністаў у Мінск, «дзе ён будзе добрым камуністычным ядром для беларускіх чырвонаармейскіх палкоў, фармаванне якіх там пачнецца». У рэзалюцыі выказвалася ўпэўненасць, што маладая беларуская Чырвоная Армія разам з латышскімі і іншымі палкамі з'явіцца першалінейным байцом і абаронцам сацыялістычнай рэвалюцыі. Згаданыя прапановы аказалі ўплыў і на працу I з'езда КП(б)Б, дэлегаты якога прынялі зварот «Да рабочых, батракоў, сялян і салдат Чырвонай Арміі Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі».

I-ы беларускі камуністычны атрад у Петраградзе, аб якім гаварылася ў рэзалюцыі канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б), налічваў у снежні 1918 каля 200 чалавек. У студзені 1919 года два ўзводы атрада па тэлефанаграме старшыні ўрада Савецкай Беларусі З. Жылуновіча прыбылі ў Мінск. Частка іх асабовага складу пайшла на работу ў ЧК, партыйныя і савецкія органы, астатнія ўліліся ў дзеючую армію. Разам з атрадамі Белнацкома і беларускіх секцый РКП(б), сфарміраванымі ў Петраградзе, Маскве і іншых гарадах, асяродкам беларускага нацыянальнага войска павінны былі стаць і мясцовыя часці тыпу Асобага рабочага палка імя Мінскага савета прафсаюзаў. Полк быў створаны ў маі-чэрвені 1919 года паводле рашэння канферэнцыі праўлення прафсаюзаў і фабзаўкомаў і налічваў 600 самаахвотнікаў і мабілізаваных мінскіх рабочых і служачых — членаў прафсаюза.

Згодна загаду II з'езда Саветаў Заходняй вобласці ўсе фарміруемыя на яе тэрыторыі часці знаходзіліся ў непасрэдным падпарадкаванні ваеннага аддзела абласнога выканкома. Кожны мясцовы Савет быў абавязаны мець свой атрад. Таму даволі акрэслена можна гаварыць аб пэўнай «беларускасці» большасці атрадаў так званай Заходняй заслоны. Ужо ў першых баях з немцамі вылучыліся 1-ы і 2-гі Магілёўскія, Аршанскі і Сенненскі палкі, 1-ы і 2-гі батальёны Віцебскага Саўдэпа. Разам з імі змагаліся Латышскі коннаразведчы атрад, Польскі рэвалюцыйны дывізіён. У сувязі з абвяшчэннем ССРБ (пасля аб'яднання з Літвой 27.02.1919 г. — ССРЛіБ ці Літбел) узнікла патрэба ў рэспубліканскім ваенна-адміністрацыйным органе. Фарміруюцца Заходняя ваенная акруга (беларускія і Смаленская губерні) і Народны камісарыят па ваенных справах Беларусі (практычна ён не распачаў працаваць). Але мабілізацыя на вайсковую службу ішла не вельмі гладка. Ускладнялася яна сур'ёзнымі памылкамі ў аграрным пытанні: адмаўленнем надзяліць працоўнае сялянства зямлёю канфіскаваных абшарніцкіх гаспадарак, фарсіраванай арганізацыяй камун і саўгасаў і г. д. Фарміраваліся часці Чырвонай Арміі без уліку мясцовых асаблівасцяў. Нават Мяснікоў прыходзіць да высновы: «У нас на тэрыторыі рэспублікі развіваецца дэзарганізацыя, таму што няма кіруючага для нашых часцей органа, а цэнтр з-за сваёй аддаленасці ад іх і недасведчанасці да умоў мясцовай работы не ў стане задаволіць правільнай арганізацыі ўзброеных сіл рэспублікі і іх дзеянняў». 10 сакавіка 1919 года засноўваецца Літоўска-Беларуская ваенная акруга, а 25 сакавіка — Народны камісарыят па ваенных справах Літвы і Беларусі. Парадаксальна — ужо 10 красавіка член РВС У. Селязнёў пісаў Леніну, што ў Беларуска-Літоўскім урадзе назіраецца пэўнае імкненне адасобіць вайсковыя апараты рэспублікі ад агульнай сістэмы, захапленне мясцовымі задачамі ва ўрон умацаванню Чырвонай Арміі. У такім меркаванні, безумоўна, сказвалася суб'ектыўная недаацэнка нацыянальных асаблівасцяў.

**Яшчэ ў аператыўнай зводцы палявога штаба РВС аб астаўленні Пінска (ад 6.03.1919 г.) дзеючыя часці Чырвонай Арміі згадваюцца як «чырвоныя літоўскія» і «чырвоныя беларускія». А 13.03.1919 г. па пастанове РВС Заходняя армія афіцыйна пераймяноўваецца ў Беларуска-Літоўскую. Увайшлі ў яе Заходняя, Віцебская (17-я) і Пскоўская (Літоўская) стралковая дывізіі. 3 чэрвеня 1919 года Старшыня Савета Абароны У. І. Ленін пасылае наркому Наркамхарчу Украіны Шліхтару тэлеграму: «Нарады для Беларуска-Літоўскай арміі і наогул Наркамхарч, Мінск, вельмі прашу не затрымліваць і накіроўваць па прызначэнню ў Мінск». (ПСС, т. 50. С. 346). Як бачым, Уладзімір Ільіч уважліва сачыў за станам ваенных спраў на Беларусі і да таго ж цалкам паўнапраўна ўжываў тэрмін «Беларуска-Літоўская армія».**

**Прыблізна ў той жа час утвараюцца армія Савецкай Латвіі, Украінская і Эстляндская арміі, іншыя савецкія нацыянальныя фарміраванні. Іх з'яўленне мела вялікі пазітыўны сэнс, бо давала магчымасць народам савецкіх рэспублік рэальна ажыццявіць дзяржаўную незалежнасць.**

**Нацыянальныя часці не ўяўлялі ізаляваныя структуры, пазбаўленыя інтэрнацыяналістычнага зместу. Між іншым, у ваенна-аператыўных адносінах яны падпарадкоўваліся галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі, дзейнічалі па яго дырэктывах. Да месца будзе прыгадаць зварот У. І. Леніна да башкірскага рэўкома пра выключнае палітычнае значэнне пераводу некаторых (некаторых, а не ўсіх — гэта вельмі важна мець на ўвазе, — В. Г.) башкірскіх часцей у Петраград. Непасрэдная пагроза вольнаму развіццю башкірскага народа, дзякуючы перамогам Чырвонай Арміі на Усходзе, мінавала. І таму, кажа Ленін, хай «драпежныя імперыялісты пабачаць, як абуджаныя народы Усходу ўзняліся на абарону цэнтраў пралетарскай рэвалюцыі». У той жа час зносіны ўзброеных башкір з рабочымі Петраграда забяспечвалі б «цесную сувязь і ўзаемапавагу ў духу камунізму» (ПСС, т. 51. С. 44).**

У АДРОЗНЕННЕ ад вайсковых фарміраванняў іншых савецкіх рэспублік большасць часцей і злучэнняў Беларуска-Літоўскай арміі з'яўляліся шматнацыянальнымі. Так у Заходняй дывізіі было каля 22 тыс. беларусаў, палякаў, рускіх і г. д. У сваю чаргу, большасць мабілізаваных у 1918—1920 гадах беларусаў і сфарміраваных з іх маршавых рот накіроўвалася на Усходні і Паўднёвы франты. Улетку 1918 г. на падаўленне чэхаславацкага мяцяжу перакінуты Мінскі і Смаленскі палкі, два палкі Віцебскага Саўдэпа, два палкі Магілёўскай дывізіі. Багата беларусаў было ў 25-й стралковай дывізіі Чапаева. У 27-ю Омскую дывізію, што вызначылася ў барацьбе супраць Калчака, уваходзіла 79-я стралковая брыгада, якая мела назву «Беларуская». Яна складалася з 235-га Невельскага, 286-га Аршанскага і 237-га Мінскага палкоў. Усяго толькі за 1919 г. па мабілізацыі ў Чырвоную Армію пайшло да 200 тыс. беларусаў.

Заходняму фронту, баявыя дзеянні якога вяліся непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, доўгі час выдаткоўваліся нязначныя папаўненні. Ці не тут хаваецца адна з прычын слабасці Беларуска-Літоўскай арміі, няўдач у вайне з Польшчай? На жаль, зразумелі гэта ваенныя кіраўнікі позна. Але лепей позна, чым ніколі — не дарма ж пасля паражэння пад Варшавай, калі Чырвоная Армія хутка адкатвалася (на некалькі дзён у сярэдзіне кастрычніка 1920 г. палякі зноў урываюцца ў Мінск), Аргбюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе не адклікаць галічан і беларусаў з польска-літоўскага фронту. Тэрмінова фарміруецца і Запасная армія Заходняга фронту, 40 тыс. вайскоўцаў з якой былі ўраджэнцамі акупіраваных паветаў Беларусі.

Жыццястойкасць беларускага народа праяўлялася і ў партызанскай барацьбе з захопнікамі. Пад час грамадзянскай вайны дзейнасць партызан набыла грандыёзныя памеры. На Палессі ў 1919 годзе склаўся цэлы партызанскі фронт, або, як ён афіцыйна называўся, — Паўстанцкія камуністычныя войскі Беларусі і захаду Украіны. Пазней асноўныя партызанскія сілы аб'ядналіся ў Народную вайсковую самаахову.

Але ваенна-палітычная сітуацыя таго часу прыпыніла развіццё нацыянальных армій. 31 мая 1919 года Савет абароны Літвы і Беларусі даслаў ВЦВК тэлеграму, у якой гаварылася аб неабходнасці падзяліць усе аб'яднаныя ваенныя сілы на арміі па аператыўных заданнях, а не па нацыянальна-тэрытарыяльнай адзнацы. Гэтая і аналагічныя прапановы іншых савецкіх рэспублік знайшлі сваё выражэнне ў пастанове ВЦВК ад 1 чэрвеня 1919 года аб ваенным саюзе Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы і Беларусі. Праіснаваўшы каля трох месяцаў, Беларуска-Літоўская армія пераймяноўваецца ў Шаснаццатую армію. Гэткім жа чынам рэарганізуюцца іншыя нацыянальныя арміі. Выключэнне склала Латышская стралковая дывізія: па просьбе ваенных кіраўнікоў Савецкай Латвіі яна захавала свой ранейшы назоў.

У дэкларацыі аб паўторным абвяшчэнні незалежнасці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі (30.07. 1920 г.) пацвярджалася, што Беларусь знаходзіцца ў раўнапраўных адно-

сінах з Савецкай Расіяй, але перадае на час рэвалюцыйнай вайны ўсе ўзброеныя сілы ў распараджэнне адзінага савецкага камандавання.

Такім чынам, ва ўмовах ваенна-палітычнага саюза савецкіх рэспублік іх нацыянальныя арміі былі фактычна зліквідаваны.

Чаму так сталася? У першыя гады пасля Кастрычніка бальшавікі былі ўпэўнены ў хуткай перамозе сусветнай рэвалюцыі. Адсюль — перабольшванне класавай еднасці, адсюль — недаацэнка нацыянальнага фактара, у прыватнасці, такога, як нацыянальнае войска. У першую чаргу гэта трагічна адбілася на гістарычным лёсе Беларусі, якой і Сталін, і Свярдлоў, і яго эмісар Іофэ адводзілі ролю фарпосту ў руху рэвалюцыі на Захад. А ў выніку яна засталася сам-насам і была падзелена паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Не змаглі стварыць беларускае войска і ўрад БНР, і іншыя прадстаўнікі нацыянальнага руху. Па-першае, не было сталай вайсковай традыцыі. Па-другое, адбіліся ўмовы акупацыі і тое, што большасць беларусаў-вайскоўцаў знаходзілася за межамі Беларусі. Некаторыя беларускія гісторыкі звычайна прыводзяць як аргумент супраць буржуазнага самаадзялення і нацыянальнага войска (палкоў) рэзалюцыі павятовых і губернскіх (у Мінску, Магілёве, Віцебску) сялянскіх з'ездаў, але чамусьці пакідаюць па-за ўвагай нізкую нацыянальную свядомасць беларусаў, абумоўленую незавершанасцю фарміравання беларускай нацыі. Да таго ж рэзалюцыі такіх сходаў інспіраваліся кіруючымі асобамі краёвай Савецкай улады накшталт Ландара, які бачыў Беларусь толькі як Заходнюю вобласць Расіі. Нельга забываць і пра палітыку «чырвонага тэрору», згодна якой класавыя ворагі павінны былі ізалявацца ў канцэнтрацыйных лагерах, расстрэлу падлягалі ўсе асобы, што мелі дачыненне да змоў і мяцяжоў. Ніхто ж іншы, як ЦК КП(б) ЛіБ у 1919 годзе прызнаў немэтазгодным супрацоўнічаць з беларускімі нацыянальнымі партыямі эсэраў, сацыялістаў-федэралістаў, сацыял-дэмакратаў, што ўрэшце і прывяло да ўзаемнага непрыняцця і канфрантацыі.

**Колькі слоў пра беларускія вайсковыя нацыянальныя асаблівасці і атрыбутыку. Якая мова ўжывалася ў вайсковым побыце атрадаў Белнацкома і Беларуска-Літоўскай арміі, па крыніцах выявіць не ўдалося. Першая беларуская вайсковая газета «Беларуская рада» выдавалася на беларускай мове Цэнтральнай вайсковай радай. Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» выкарыстоўвалі як нацыянальную атрыбутыку амаль усе вайсковыя арганізацыі нацыянальна-дэмакратычнага накірунку. Захаваўся, напрыклад, фотаздымак камендатуры 1-га Беларускага палка ў Гродне (1919 г.), на будынку якой — бел-чырвона-белы сцяг. У беларускіх часцях у Літве ўзнагародай быў «Крыж за Бацькаўшчыну», мелася адметная нацыянальная вайсковая форма. Удзельнікі грамадзянскай вайны ў Савецкай Беларусі ўзнагароджваліся ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР.**

СКОНЧЫЛАСЯ грамадзянская вайна. У Заходняй Беларусі ўрад колішняй БНР і ЦК БПС-Р, абапіраючыся на падтрымку буржуазнай Літвы, рыхтуе ўзброенае паўстанне. Ствараецца Цэнтральны беларускі паўстанцкі камітэт і Галоўны штаб беларускіх партызан на чале з падпалкоўнікам Успенскім — былым камандзірам беларускага батальёна ў Ваўкавыску. Ім падпарадкоўваліся беларускі батальён, расквартараваны ў наваколлі Коўна (рэшта Гродзенскага палка), партызанскія атрады падзеленыя на чатыры паўстанцкія акругі Віленшчыны, Гродзеншчыны, Палесся. Толькі на Гродзеншчыне дзейнічала партызанскае злучэнне Генрыха Скамароха (Шыманюка) лікам каля 15 тыс. чалавек. Але польская контрразведка выкрыла падполле і парушыла планы змоўшчыкаў. У 1922 г. БПС-Р зводзіць свае атрады на тэрыторыі Літвы ў «Саюз беларускіх стральцоў» (кіраўнікі — А. Цвікевіч, А. Карабач і інш.). Аднак рэвалюцыйная сітуацыя ў Польшчы паступова спадае. БПС-Р распускаецца, узброеная барацьба працягваецца пад кіраўніцтвам КПЗБ. Да 1925 года яна затухае.

У Чырвонай Арміі пытанне нацыянальных часцей у мірных умовах набывае новы сэнс. Непасрэдна прычыняецца да гэтага Сталін. Цікава прасачыць за эвалюцыяй, альбо лепей сказаць, — мімікрыяй яго поглядаў. Спачатку Сталін адстойвае ідэю «аўтанамізацыі» нацыянальных рэспублік. У чэрвені 1917 года на першай Усерасійскай канферэнцыі ваенных арганізацый ён у дакладзе «Нацыянальны рух і нацыянальныя палкі» выказваецца супраць стварэння нацыянальных палкоў. Пазней, у прамове на нарадзе па скліканні ўстаноўчага з'езда Татара-Башкірскай Савецкай Рэспублікі Сталін называе «чыста нацыяналістычнай» аўтаномію экстэрытарыяльную, пабудаваную на грунце «нацыянальных саветаў» і «нацыянальных палкоў».

З-за цяжкай хваробы ў XII з'ездзе РКП (б) 17 — 25 красавіка 1923 года У. І. Ленін не ўдзельнічаў. Але адкрыта рэвізаваць ленінскую стратэгію дзяржаўнага будаўніцтва генсек яшчэ не мог. Таму і ў дакладзе па нацыянальным пытанні, і ў адпаведнай рэзалюцыі з'езда, падрыхтаваных Сталіным, стрыжнёвымі былі ўсё ж моманты менавіта ленінскай нацыянальнай палітыкі, выкладзеныя напярэдадні з'езда ў пісьме «Да пытання аб нацыянальнасцях, або аб «аўтанамізацыі». Натуральна, тычыліся яны і нацыянальнага войска. Праілюструем гэту думку некалькімі дакументамі.

**З рэзалюцыі XII з'езда па нацыянальным пытанні: «...з'езд рэкамендуе... каб... былі распачаты практычныя мерапрыемствы па арганізацыі нацыянальных вайсковых часцей». У рэзалюцыі 4-ай нарады ЦК РкП(б) ад 12 чэрвеня 1923 г. «Аб практычных захадах арганізацыі нацыянальных вайсковых часцей» гаварылася: «Неабходна зараз жа прыступіць да стварэння ваенных школ у рэспубліках і абласцях для выпрацоўкі ў пэўны тэрмін каманднага складу з мясцовых людзей, які можа потым стаць ядром арганізацыі нацыянальных вайсковых часцей. Пры гэтым зразумела, што павінен быць у дастатковай меры забяспечаны партыйны і сацыяльны склад нацыянальных часцей, асабліва каманды... На Украіне і Беларусі можна было б адразу стварыць па адной... міліцыённай дывізіі. Пытанне аб стварэнні нацыянальных вайсковых часцей мае першаснае значэнне... у сэнсе абароны ад магчымых нападкаў з боку... Значэнне нацыянальных вайсковых часцей з пункту погляду ўнутранага становішча Саюза Рэспублік не патрабуе доказаў».**

Паводле рашэнняў партыі ў 1923—1925 гадах праводзіцца ваенная рэформа Чырвонай Арміі. Камплектаванне войск базіруецца на тэрытарыяльным прынцыпе ў спалучэнні з кадравым. Большая частка дывізій прыгранічнай Заходняй ваеннай акругі (з 2.10. 1926 г. — Беларуская ваенная акруга) заставаліся кадравымі. Новы прынцып фарміравання быў распаўсюджаны на 33-ю і 29-ю стралковыя дывізіі, тры палкі 27-й Омскай стралковай дывізіі і два палкі 37-й стралковай дывізіі. Але і ў іх увесь старэйшы, адміністрацыйна - гаспадарчы, медыцынскі і ветэрынарны склад, 16—20 працэнтаў сярэдняга і малодшага каманднага і палітычнага складу і чырвонаармейцаў былі кадравымі. Да поўнага штату тэрытарыяльныя часці камплектаваліся з насельніцтва раёнаў дыслакацыі. На працягу пяці гадоў яно прызывалася на зборы: першы раз — на тры месяцы, а затым — на месяц у год.

Ваенная рэформа прадугледжвала таксама аднаўленне нацыянальных часцей і злучэнняў. Да восені 1924 года з'явіліся дзве грузінскія і чатыры ўкраінскія стралковыя дывізіі. Першай нацыянальнай у Заходняй ваеннай акрузе стала 2-я Беларуская стралковая дывізія. Потым тэрытарыяльным стаў 16-ы Беларускі корпус (да трох стралковых дывізій).

Нацыянальны склад часцей БВА быў даволі разнастайны. Асноўную масу складалі рускія — 51,4 працэнта, беларусы — 35,5, іншыя нацыянальнасці — 13,7 працэнта. Пераменны склад тэрытарыяльных часцей размяркоўваўся наступным чынам: беларусаў — 93 працэнты, яўрэяў — 4, палякаў —1,5 і іншых — 1,5 працэнта. («Ад зьезду да зьезду», Менск, 1929).

Палітыка беларусізацыі ў 20-ыя гады закранула і часці Чырвонай Арміі. Гэта неаднаразова адзначалася ў дакументах ЦВК БССР і ЦК КП(б)Б. Вось толькі адно афіцыйнае сведчанне: «-ская стралковая дывізія, якая зьяўляецца беларускай нацыянальнай дывізіяй, усю сваю работу па навучаньні і выхаваньні байцоў перавяла на беларускую мову. Усе асноўныя навучальныя дапаможнікі (статуты, падручнікі) выданы на беларускай мове (сярод іх «Чырвонаармейская чытанка» — падручнік для палітзаняткаў. — **В. Г.**). Беларуская літаратура складае асноўную масу бібліятэчных фондаў частак дывізіі... Вялікім дасягненнем павінна быць прызнана пачаўшая выходзіць з 1 студзеня 1929 г. беларуская ваенная газета «Чырвонаармейская праўда» **(Там сама).** Для падрыхтоўкі беларускіх камандных кадраў створана Аб'яднаная беларуская ваенная школа каманднага складу імя ЦВК БССР. Яе, прыгадаем, скончыў наш славуты военачальнік І. Якубоўскі.

**Скасавалі тэрытарыяльныя фарміраванні БВА ў 1935 — 1938 гг., калі сталінскія апрычнікі наводзілі «парадак» у арміі. У Вялікую Айчынную вайну ў верасні 1941 года адноўлена Латышская стралковая дывізія, у 1942 годзе сфарміраваны Эстонскі стралковы корпус і 16-я літоўская стралковая дывізія. Беларускія часці не аднаўляліся. Заганы сталінскага рэжыму ў нацыянальным пытанні спрабавалі выкарыстаць на Беларусі фашысцкія захопнікі. Паразітуючы на нацыянальных ідэях і сімвалах, яны пры дапамозе калабарацыяністаў (Астроўскага, Езавітава і інш.) стварылі «Беларускую краёвую абарону». Але беларускі народ у масе не паддаўся на правакацыю. Паўмільёна партызанаў уяўлялі сабой моцную беларускую нацыянальную сілу.**

ПАСЛЯ ВАЙНЫ нацыянальныя фарміраванні зноў знікаюць. Праўда, у тэксце Канстытуцыі БССР 1951 года выдання прысутнічае артыкул 16-б аб тым, што БССР «мае свае рэспубліканскія вайсковыя фарміраванні». Але, відаць, гэта была ўжо голая дэкларацыя, абумоўленая членствам рэспублікі ў ААН. У апошняй рэдакцыі Канстытуцыі БССР няма і самога артыкула.

Зараз, калі мы нанова вывучаем сацыяльна-эканамічную і культурную спадчыну 20-х гадоў, бясспрэчна, трэба звярнуць увагу і на вопыт будаўніцтва нацыянальных часцей арміі.

Зразумела, прайшоў час, змяніліся канкрэтныя гістарычныя акалічнасці. Ды нейкія пазітыўныя зярняткі нацыянальна-тэрытарыяльнай рэформы арміі можна выкарыстаць і сёння.

Па-першае, вызваліліся б вялікія людскія і эканамічныя рэсурсы, што пры дасягненні рэальнага суверэнітэту рэспублікі, гасразліку мае выключнае значэнне. У тэрытарыяльных часцях праходзіла б ваенную падрыхтоўку асноўная частка самадзейнага насельніцтва Беларусі. Сродкаў на іх шмат не трэба. Ваеннаабавязаныя, якія прызываюцца на некалькі месяцаў у год, не адрываюцца надоўга ад вытворчасці ці вучобы, зберагаюцца іх прафесійныя і навучальныя звычкі. Да таго ж, такія часці могуць самазабяспечвацца значнай доляй харчу, узяўшыся, напрыклад, арандаваць у мясцовых калгасаў зямлю і сельскагаспадарчыя прылады. Пасля звальнення цэлыя армейскія калектывы маглі б мэтанакіравана ўлівацца ў эканамічнае жыццё рэспублікі. Згадаем, як у 1929 годзе каля 400 чырвонаармейцаў і малодшых камандзіраў заснавалі на Любаншчыне камуну, якая потым стала адным з перадавых калгасаў. Народны паэт Беларусі Янка Купала апісаў тыя падзеі ў паэме «Над ракою Арэсай». Для грамадскіх прадпрыемстваў і ўстаноў у арміі ў такім выпадку можна рыхтаваць спецыялістаў канкрэтнай прафесійнай накіраванасці. Адным словам, дасягалася б больш арганічнае спалучэнне і ўзаемадзеянне ў жыцці рэспублікі ваеннай і народнай гаспадарак.

Па-другое, і ў ваенных адносінах не так ужо і мала могуць даць тэрытарыяльныя войскі. Дальбог, не дарэмна вывучалі афганскія душманы па спецыяльнаму дапаможніку тактыку партызанскай вайны на Беларусі ў мінулую вайну. Высокую баяздольнасць арміі гарантавалі б асобныя кадравыя часці, створаныя на прафесійнай аснове.

Па-трэцяе, якасней праходзіла б ваенна-патрыятычная падрыхтоўка. Загадзя ведаючы, з якіх рэгіёнаў рэспублікі ідзе папаўненне, вайскоўцам зручней арганізаваць папярэдняе вывучэнне прызыўнога кантынгенту на месцах, узяўшы шэфства над школамі, ПТВ і да т. п.

Нарэшце, нельга не ўлічваць фактар беларускамоўнага асяроддзя. На Бацькаўшчыне намнога эфектыўней весці прапаганду здабыткаў беларускай культуры, вайсковых традыцый народа. У сваю чаргу, ваенна-патрыятычная тэма атрымае шырэйшы і ярчэйшы адбітак у творчасці дзеячаў нацыянальнай літаратуры і мастацтва (у 1930—1932 гг. працавала літаратурнае аб'яднанне Чырвонай Арміі і Флоту — БелЛАЧАФ). А зберажэнне і развіццё вайсковай лексікі як адной з частак жывой мовы? Хіба гэта не важкі аргумент?!

Звычайна супраць даводзіцца чуць наступнае. Тэрытарыяльныя альбо нацыянальныя часці павялічаць напружанасць у сітуацыях, накшталт падзей у Нагорным Карабаху. Але ж гэтага можна пазбегнуць за кошт дбайнага падбору асабовага складу часцей, у першую чаргу каманднага, па палітычных і сацыяльных адзнаках. Такія войскі дапамогуць падтрымаць правапарадак, пазбягаць залішніх эмоцый і экстрэмісцкіх перахлёстаў з боку прадстаўнікоў сваёй нацыянальнасці.

**Што чуваць у суседзяў? Відаць, мае рацыю народны дэпутат СССР Я. Петэрс, які ў выступленні на Першым з'ездзе народных дэпутатаў гаварыў пра неабходнасць дагавору паміж Міністэрствам абароны і саюзнай рэспублікай (якія войскі, колькі, на які час, у якіх месцах павінны дыслацыравацца ў рэспубліцы). На яго думку, вайскоўцы абавязаны здаваць экзамен на мінімум ведаў па гісторыі, традыцыях, укладзе жыцця народа, на тэрыторыі якога праходзяць службу. Усё гэта будзе фарміраваць у ваеннаслужачага псіхалогію грамадзяніна дзяржавы, а не вайсковай акругі. У Эстоніі зроблены практычныя захады. Да 21 працэнту эстонцаў служаць на тэрыторыі Прыбалтыйскай ваеннай акругі (4 працэнты ў самой рэспубліцы). Будзе пашырацца іх прызыў у часці і злучэнні з найменнямі эстонскіх гарадоў. На працу ў ваенныя камісарыяты і штабы ГА Эстоніі пераводзяцца афіцэры-эстонцы з другіх рэгіёнаў краіны.**

Зусім неабавязкова праводзіць беларусізацыю войска адразу ў шырокіх маштабах. Напачатку, у парадку эксперыменту, гэта маглі б быць некалькі асобных вайсковых ці нават міліцыйных падраздзяленняў, скамплектаваных па тэрытарыяльным прынцыпе з выкарыстаннем беларускай мовы як рабочай. Час пакажа іх прымальнасць ці непатрэбнасць у сучасных варунках.

**Валерый ГЕРАСІМАЎ,**
**галоўны бібліёграф навукова-даследчага аддзела Урадавай бібліятэкі БССР імя А. М. Горкага.**

У працы над артыкулам выкарыстаны манаграфіі М. С. Сташкевіча, В. А. Круталевіча, П. А. Селіванава, А. Г. Хахлова, Л. Гапаненкі, Н. В. Каменскай, Я. Н. Шкляр і інш., беларуская даваенная і сучасная перыёдыка.

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

# «СІДАРЫХА ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ»

**Мы зноў вымушаны звярнуцца да праблем, узнятых у матэрыяле «Сідарыха просіць дапамогі» («ЛіМ», № 11), дзе ішла гаворка пра лёс помніка архітэктуры XVIII стагоддзя — касцёла і кляштара францысканцаў у г. п. Івянец. Справа ў тым, што нягледзячы на аб'ектыўна абгрунтаваныя вывады кампетэнтных органаў, якія наклалі табу на ажыццяўленне заганнага праекта — будаўніцтва цэха і кацельні Мінскага праектна-тэхналагічнага інстытута, «...аблвыканком лічыць неабходным уключыць у праграму падрадных работ трэста № 5 аблсельбуда пачатак будаўніцтва корпуса доследна-эксперыментальнага завода ў 1990 г.» (З пісьма Мінаблвыканкома ў аблсельбуд).**

**У № 26 «ЛіМа» былі змешчаны адказы намесніка старшыні Дзяржбуда БССР Л. Маскалевіча, намесніка старшыні прэзідыума Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Г. Саўчанкі, намесніка старшыні прэзідыума Мінскага абласнога савета Беларускага таварыства аховы прыроды А. Гнаяніка. Адказы — абнадзейваючыя. Здавалася, усё станавілася на свае месцы. Але кіраўніцтва МПКТІ не жадае лічыцца ні з рашэннямі вышэйназваных устаноў, ні з думкай грамадскасці. Настойліва ігнаруецца прапанова перанесці будаўніцтва на новае месца. У ход ідуць розныя сродкі — ад надання ярлыкоў («нефармалы», «нацыяналісты») тым, хто супраць праекта, да псіхалагічнага ўціску на мясцовае кіраўніцтва.**

**А цяпер мушу зноў задаць некалькі пытанняў аўтарам праекта. Чаму будаўніцтва адстойнікаў і перапамповачнай станцыі трэба размяшчаць паблізу рэчкі? Ці мэтазгодна весці сюды, у цэнтр пасёлка, праз такую вялікую адлегласць каналізацыйныя сеткі ад кандытарскай фабрыкі і іншых прадпрыемстваў? Ці эканамічна рабіць насып двух-трохметровай вышыні ў пойме Волмы і адначасова зразаць гару Сідарыху? Ці ўлічаны нораў хуткаплыннай Волмы пры максімальным звужэнні русла пад час паводкі? Зыходзячы з чыіх пазіцый і інтарэсаў Дзяржкамітэт БССР па ахове прыроды ўзгадняў рабочы праект?**

**З праекта бачна, што будаўніцтва аб'екта ў цэнтры мястэчка не вырашыць усіх праблем Івянца, бо кацельня — маламагутная, а дзве свідравіны-водазаборы і каналізацыя прызначаны толькі для абслугоўвання эксперыментальнай вытворчасці.**

**Не цяжка ўявіць сабе будучы «рай» коштам у 3 мільёны 817 тысяч дзяржаўных рублёў. Жудасна робіцца, калі ўявіш пачвару-комін у сэрцы Івянца. Як сцвярджаюць вучоныя, спалучэнні ізатопаў цяжкіх металаў, якія выдзяляюцца пры гальванічнай вытворчасці, з павышаным радыяцыйным фонам даюць непрадбачаныя медыцынай адхіленні ў генетыцы чалавека і ўсяго жывёльнага свету. Магчымы таксама біялагічныя і біяхімічныя змены ў навакольным асяроддзі.**

**Можна выратаваць становішча толькі адным: эксперыментальны цэх з гальванічнай ваннай трэба будаваць на адведзенай пляцоўцы ў хвойніку за «Сельгасхіміяй». Іменна тут ландшафт мясцовасці і месцазнаходжанне ўсіх прамысловых прадпрыемстваў Івянца дазволіць зрабіць сучасную экалагічна бяспечную каналізацыйную сістэму.**

**Што тычыцца гістарычнага і культурнага цэнтра мястэчка, то трэба вырашыць сацыяльныя праблемы разумна, нягледзячы на неабходнасць дадатковых фінансавых укладанняў.**

**А. РАМАНОЎСКІ,**
**член раённага Савета таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**
г. п. Івянец.

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Федасеенку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

